## З Ь М Е С Т



**Малюнак на вокладцы—Сыраварня ў калгасе „Расьсьвет-Пабядзіцель—Майскае".**

Заказ № 758. У ліку 10000 экз. Галоўлітбел № 561.

# ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ, ВЫТВОРЧАГА С.-Г. КААПЭРАВАНЬНЯ І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАССАЮЗУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 6 || Сьнежань || 1929 г.

## ПЛЕНУМ ЦК УсеКП(б).

### РЭЗАЛЮЦЫЯ АБ КАЛГАСНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ.

*(Ухвалена пленумам ЦК УсеКП(б) 17-XI-1929 г. па дакладу тав. Камінскага).*

### Аб выніках і далейшых задачах калгаснага будаўніцтва.

1. XV зьезд партыі паставіў у якасьці асноўнай задачы партыі ў вёсцы «паступовы пераход распыленых сялянскіх гаспадарак на рэйкі буйнай вытворчасьці». За апошнія два гады партыя дабілася вялікіх посьпехаў у ажыцьцяўленьні гэтай дырэктывы XV зьезду. СССР уступіў у паласу разгорнутай сацыялістычнай перабудовы вёскі і будаўніцтва буйнага сацыялістычнага земляробства. На аснове разгортваньня вытворчай сувязі, масавай кантрактацыі і г. д. павялічваецца вытворчае каапэраваньне сялянскіх гаспадарак, якое ўсё больш пераходзіць на вышэйшую ступень і перарастае ў калгасны рух.

Сьледам за бедняком у калгасы пайшла і серадняцкая маса. Уцягненьне мільённых мас вёскі ў калгасны рух набывае рашучае значэньне ў ажыцьцяўленьні Ленінскага каапэрацыйнага пляну. Падводзячы вынікі калгаснаму будаўніцтву, неабходна адзначыць: хуткі рост ахопу сялянскіх гаспадарак калгасамі; ажыцьцяўленьне новых форм і мэтадаў калектывізацыі, у прыватнасьці, на аснове вопыту машынатрактарных станцый; будаўніцтва буйных калгасаў і павялічэньне іх ролі; ахоп калгасамі цэлых селішчаў; пераход да сплашной калектывізацыі раёнаў і акругаў (калгасны рух ставіць ужо задачу сплашной калектывізацыі перад паасобнымі абласьцямі). Такі значны посьпех калгаснага руху зьяўляецца непасрэдным вынікам пасьлядоўнага правядзеньня генэральнай лініі партыі які забясьпечвае магутны рост прамысловасьці, узмацненьне сувязі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, насаджэньне каапэрацыйнай грамадзкасьці, узмацненьне палітычнай актыўнасьці мас і рост матар'яльных і культурных сродкаў пралетарскае дзяржавы.

Разам з гэтым буйны рост калгаснага руху ставіць перад партыяй шэраг новых важнейшых задач, выяўляе новыя цяжкасьці і недахопы калгаснага будаўніцтва, з якіх важнейшымі ў сучасны момант зьяўляюцца: нізкі ўзровень тэхнічнай базы калгасаў; недастатковая арганізаванасьць і нізкая прадукцыйнасьць працы ў калгасах; востры недахоп кадраў калгасьнікаў і амаль адсутнасьць неабходных спэцыялістаў; засьмечанасьць сацыяльнага складу часьці калгасаў; недастатковая прыстасаванасьць форм кіраўніцтва з маштабам калгаснага руху, а таксама адставаньне ад тэмпу і размаху гэтага руху.

2. Шырокае разгортваньне калгаснага руху працякае ў абставінах абвастрэньня клясавай барацьбы ў вёсцы і зьмены яе форм і мэтадаў. Побач з узмацненьнем непасрэднай і адкрытай барацьбы кулацтва супроць калектывізацыі, якая даходзіць да тэрору (забойства, падпалы, шкодніцтва), кулакі даходзяць да замаскаваных скрытых формаў барацьбы і эксплёатацыі, пралазячы ў калгасы і нават у органы кіраўніцтва калгасаў, каб разлажыць і ўзарваць іх знутры.

Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы асабліва значэньне набывае паступовае правядзеньня мерапрыёмстваў па барацьбе з лжэкалгасамі, якія зьяўляюцца сродкам маскіроўкі і зброяй кулацкіх элемэнтаў вёскі. Працягваючы і ўзмацняючы барацьбу супроць капіталістычных элемэнтаў вёскі, разьвіваючы рашучае наступленьне на кулака, усяляк перашкаджаючы і спыняючы спробы кулакоў пралезьці ў калгасы, партыя павінна ўпартай і сыстэматычнай працай забясьпечыць згуртаваньне батрацка-бядняцкага ядра ў калгасах. Гэта тым больш неабходна, што ў самых калгасах, асабліва ў калгасах простага тыпу, паколькі ў іх далёка яшчэ не аграмаджаны ўсе сродкі вытворчасьці і наогул, калі ў іх дробна-ўласьніцкія інтарэсы, застаецца значная небясьпека кулацкіх уплываў. У сувязі з гэтым асабліва неабходна ўсямернае ўмацаваньне аграмаджаных фондаў калгасаў, як асновы росту калгаснага руху, а таксама ажыцьцяўленьня сталай сувязі калгасаў з усёй сыстэмай савецкае гаспадаркі.

Важнейшай задачай партыйных арганізацый зьяўляецца ўсебаковае ўзмацненьне ўдзелу і кіруючага ўплыву пралетарскіх элемэнтаў гораду, пралетарскіх і паўпралетарскіх пластоў вёскі ў калгасным руху. Пры гэтым асаблівае значэньне мае арганізацыя батрацка-бядняцкіх груп прасьцейшых вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў і прасьцейшых форм калектыўных гаспадарак (таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі).

3. Дасягнуты размах калгаснага будаўніцтва перавысіў усе плянавыя меркаваньні, усё больш выразна выяўляючы тое вялічэзнае паскораньне тэмпаў сацыялістычнага разьвіцьця будаўніцтва, якое прадбачыў Ленін. Партыя ўсё з большым і большым посьпехам вырашае задачы пабудовы буйнай аграмаджанай сельскай гаспадаркі, тым самым выкрываючы капітуляцыю сутнасьць поглядаў правых апартуністаў, накіраваных супроць палітыкі партыі, у галіне калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Партыя і рабочая кляса неаслабна вядучы барацьбу з апартуністычнымі элемэнтамі і прымірэнцтвам у сваіх шэрагах, разьвіваючы энэргічнае наступленьне на варожыя пралетарскай дыктатуры клясавыя сілы, рашуча павяла ўперад бядняцка-серадняцкія масы вёскі па шляху сацыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Наперакор фальшывым «тэорыям» лідэраў правай апазіцыі аб «дэградацыі» сельскае гаспадаркі, мы маем на справе паскораны рост вытворчых сэктараў у сельскай гаспадарцы на аснове хуткага разьвіцьця аграмаджанага сэктару і масавага ўздыму індывідуальных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак. Наперакор капітулянскім «тэорыям» аб «урастаньні» кулака ў сацыялізм, наперакор панічным патрабаваньням правых апартуністаў разьвязаць «вольны абарот» для капіталістычных элемэнтаў і зьнізіць тэмп індустрыялізацыі і аграмаджаньня сельскае гаспадаркі, партыя праводзіць і будзе праводзіць курс на рашучую барацьбу з кулаком, на выкарчоўваньне карэньняў капіталізму ў сельскай гаспадарцы, на хутчэйшае аб'яднаньне індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у буйныя калектыўныя гаспадаркі, на падрыхтоўку ўмоў для разьвіцьця плянавага прадукту абмену паміж горадам і вёскай.

Вынікі разгорнутага калектыўнага будаўніцтва выяўляюць вялізарныя магчымасьці ўздыму вытворчых сіл сельскае гаспадаркі, якія закладзены ва ўмовах савецкага ладу. Пачынаецца новы гістарычны этап сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі па шляхох узмацненьня вытворчай сувязі пралетарскае дзяржавы з асноўнымі бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі.

4. Асноўная цяжкасьць калгаснага будаўніцтва ў сучасны пэрыяд заключаецца ў адсталасьці тэхнічнай базы.

Буйную высокапрадукцыйную і сапраўды сацыялістычную вытворчасьць у сельскай гаспадарцы можна пабудаваць толькі на базе сучаснай машыннай тэхнікі і электрыфікацыі. Таму галоўнае значэньне мае ўтварэньне матар'яльна-тэхнічнай базы для сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Пленум ЦК адабрае пастанову Палітбюро аб пашырэньні пляну будаўніцтва трактароў і машын, аб неадкладным пачатку пабудовы двух новых трактарных заводаў, прадукцыйнасьцю да 50 тысяч трактароў (гусянічных) кожны, пабудове двух заводаў камбойнаў, пашырэньні заводаў складаных сельска-гаспадарчых машын, хімічнай прамысловасьці і г. д. Неабходна таксама разгортваньне будаўніцтва, электра-станцый і электра-машын для сельскае гаспадаркі і для пераапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў. Усямернае разгортваньне гэтага будаўніцва ўтворыць неабходную тэхнічную базу буйнага сацыялістычнага земляробства і неабходныя ўмовы для ажыцьцяўленьня грунтоўнай тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы для яе аграмаджаньня.

Пленум ЦК лічыць неабходным прыступіць да набліжэньня сродкаў сялянскага насельніцтва на фінансаваньне гэтага будаўніцтва, у прыватнасьці, шляхам арганізацыі на трактарных заводах і заводах складаных сельска-гаспадарчых машын, прыёму папярэдніх заказаў і практыкі ў задачах непасрэднага пераходу калгасаў і іх аб'яднаньняў на трактары, камбайны, складаныя с.-г. машыны.

Неабходна разгарнуць шырокую кампанію калгасаў па ўтварэньні спэцыяльнага экспартнага фонду для закупкі імпартных трактароў. Ва ўмовах масавага разгортваньня калгаснага будаўніцтва неабходна аддаваць усё больш увагі справе будаўніцтва буйных машынізаваных калгасаў, якія павінны выкарыстаць у сваёй тэхнічнай арганізацыі вопыт

саўгасаў; паступова ператвараючыся ў сапраўдныя сацыялістычныя прадпрыемствы, пабудованыя на базе сучаснай машыннай тэхнікі і навейшых навуковых дасягненьняў. Асабліва важнае значэньне ў справе будаўніцтва буйных калгасаў маюць міжсялішчныя машынатрактарныя станцыі. Ствараючы шырокую магчымасьць выкарыстаньня пераважнасьці сучаснай тэхнікі ў сялянскіх гаспадарках машынна-трактарныя станцыі павінны стаць цэнтрам агульнай калектывізацыі цэлых раёнаў.

Пленум ЦК адабрае ўтварэньне ўсесаюзнага цэнтру машынна-трактарных станцыі (Трактарацэнтр) і ўваходжаньне яго ў агульную сыстэму калгаснага будаўніцтва (Усесаюзны Калгасцэнтр), як спэцыяльнага аўтономнага цэнтру. Маючы вялікі процант бязінвэнтарных сялянскіх гаспадарак і рост недахопу трактараў і складаных машын, важнейшая задача калгаснага будаўніцтва ў сучасны пэрыяд заключаецца ў тым, каб побач з будаўніцтвам вышэйшых форм калектывізацыі на перадавой тэхнічнай базе, садзейнічаць мільёнам сялянскіх гаспадарак выкарыстаць усе магчымыя сродкі і больш простыя прылады вытворчасьці ў межах прасьцейшых калгасаў і каапэрацыйных вытворчых аб'яднаньняў.

Важная роля належыць куставым аб'яднаньням калгасаў, высунутым ініцыятывай саміх калгасаў, і якія цалкам апраўдалі сябе на практыцы калгаснага будаўніцтва. Арганізуючы паўсюду выкарыстоўваньне ў дробных калгасах складаных машын і трактараў, аб'яднаючы дробныя калгасы для супольнага будаўніцтва прадпрыёмстваў, трактарных калён і буйных машынных станцый з цэльнай і мяшанай цягавой сілай (у прыватнасьці шляхам рэарганізацыі існуючых пракатных пунктаў), куставыя аб'яднаньні павінны стаць вытворчымі цэнтрамі, якія падрыхтоўваюць неабходныя матар'яльна-тэхнічныя ўмовы для ўзмацненьня дробных калгасаў і масавага ўцягваньня ў іх акаляючых сялянскіх гаспадарак.

Такім чынам, будаўніцва буйных калгасаў павінна разьвівацца разнастайнымі шляхамі, у розных формах пры бесьперапынным узмацненьні арганізуючага ўплыву сацыялістычнай прамысловасьці і буйных саўгасаў пад кіраўніцтвам пралетарскай дзяржавы. Задача партыі заключаецца ў тым, каб, улічваючы ўсю складанасьць і рознасьць шляхоў пераходу дзесяткаў мільёнаў сялянскіх гаспадарак да буйнага сацыялістычнага земляробства, усямерна разьвіваць ініцыятыву і самадзейнасьць саміх мас у калгасным будаўніцтве, пры ўзмацненьні кіраўніцтва калгасным рухам з боку партыі і разьвіцьці новых форм сувязі і дапамогі рабочае клясы асноўным масам насельніцтва ў справе перабудовы сельскае гаспадаркі. Пры гэтым значна павінна быць павялічана і роля дзяржавы, у першую чаргу зямельных органаў у кіраўніцтве калгасным будаўніцтвам.

5. Грунтоўным недахопам калгаснага руху зьяўляецца параўнальна нізкая прадукцыйнасьць працы, недастатковая вытворчая дысцыпліна і адсутнасьць належнай увагі ў кіруючых органаў калгаснага руху ва ўмовах арганізацыі працы калгасаў. Таму ў кожным калгасе неабходна ўпартая і сыстэматычная барацьба за падвышэньне прадукцыйнасьці працы, за ўзьняцьце ўраджайнасьці, за павялічэньне таварнай прадукцыі. Дзеля гэтага патрэбна, перш-на-перш, дамагчыся рашучага пералому ў узмацненьні працоўнай дысцыпліны ў калгасах на падставе сапраўды сьвядомых адносін членаў калгасаў да сваіх абавязкаў, праводзячы пры гэтым прынцып адказнасьці за выкананьне даручанай працы і ствараючы асабістую матар'яльную зацікаўленасьць кожнага калгасьніка ў падвышэньні прадукцыйнасьці працы (дзённая аплата працы, нарміроўка выпрацовак, сыстэма прэміраваньня і г. д.). Для падвышэньня прадукцыйнасьці працы павінны быць выкарыстаны мэтады сацыялістычнага спаборніцтва, вынікі працы вытворчых нарад і шырокага разгортваньня самакрытыкі.

Жыцьцёвым пытаньнем узмацненьня калгасаў зьяўляецца такая арганізацыя гаспадаркі, якая ў залежнасьці ад умоў раёну забясьпечыла-б максымальнае карыстаньне рабочай сілай калгасьнікаў (жывёлагадоўля, інтэнсыўная культура, падсобныя прадпрыемствы, саматужныя промыслы і г. д.). Кіруючыя органы калгасаў пры распрацоўцы арганізацыйных плянаў абавязкова павінны мець гэта на ўвазе.

6. Асаблівая ўвага партыі ў калгаснай сыстэме павінна быць прыцягнута да праблемы кадраў. Калгасны рух набыў такія разьмеры, якія патрабуюць рашучай, рэволюцыйнай перабудовы ўсёй сыстэмы, праграмы і мэтадаў падрыхтоўкі арганізатараў, аграномаў, інжынэраў, земляўпарадкавацеляў, цесьляроў, фінансава-рахунковых працаўнікоў для калгаснага будаўніцтва. Павінна быць забясьпечана рашучае павялічэньне новых прыёмаў у ВНУ і тэхнікумы з ліку калгасьнікаў, асабліва батракоў і беднаты.

Пленум ЦК прызнае неабходным заснаваць пры калгасцэнтры цэнтральную школу па падрыхтоўцы арганізатараў буйных калектыўных гаспадарак. Поруч з гэтым неабходна ў шырокім абхваце арганізаваць навучаньне калгасных кадраў у саўгасах і буйных калгасах, якія павінны служыць масавай мэце практыка-будаўнікоў буйнай гаспадаркі, якія вывучылі на вопыце калгаснай і саўгаснай працы ўжываньне ўсё больш удасканаленых і новых форм, арганізацыі с.-г. вытворчасьці іх працы, палепшаных тэхнічных спосабаў, выкарыстаньне хіміі і г. д.

Магутным рэзэрвам, з якога павінны чэрпацца кіруючыя кадры будаўнікоў сацыялістычнага земляробства, зьяўляюцца індустрыяльныя рабочыя. ЦК лічыць неабходным,

апроч сыстэматычнага ўзмацненьня калгаснага руху партыйнымі кіруючымі працаўнікамі, накіраваць на вёску на працягу бліжэйшых месяцаў для працы ў калгасы, машына-трактарныя станцыі, куставыя аб'яднаньні і г. д. ня менш 25 тысяч рабочых з належным арганізацыйна-палітычным вопытам. Гэтыя рабочыя павінны ўзяць самы актыўны ўдзел у разьвіцьці калгасных рабочых. Калгаснае будаўніцва немагчыма без падняцьця культурнасьці калгаснага насельніцтва.

Савецкія органы, сама калгасная сыстэма, сельска-гаспадарчая і спажывецкая каапэрацыя і ўся савецкая грамадзкасьць павінны разгарнуць шырокую працу ў галіне культурнага абслугоўваньня калгаснага насельніцтва, у першую чаргу буйных калгасаў і ў раёнах сплашной калектывізацыі. Пашырэньне дзейнасьці таварыстваў зьнішчэньня няпісьменнасьці, бібліятэчнай справы, калгасных курсаў і розных галін завочнага навучаньня, узмацненьне культурнай і палітычнай працы сярод жанчын, шырокае разгортваньне ўсёй падрастаючай моладзі, масавае распаўсюджваньне агранамічных ведаў, палепшаньне сацыяльна-бытавога абслугоўваньня калгаснага насельніцва, асабліва дзяцей (заснаваньне ясьляў, грамадзкае харчаваньне і г. д.)—зьяўляюцца неабходнымі ўмовамі пасьпяховага разьвіцьця калгаснага будаўніцтва.

Асабліва важна таксама заснаваньне пры заселеных машына-трактарных станцыях культурных цэнтраў. Самы актыўны ўдзел у гэтай працы павінна ўзяць спажывецкая каапэрацыя. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на радыё і кіно, а таксама на арганізацыю сродкаў сувязі (тэлефон, пошта) і разьвіцьця шляхавага будаўніцва калгасаў, значна павінна быць павялічана абслугоўваньне калгасаў з боку агульнага і спэцыяльнага друку.

7. Разгортваньне масавага калгаснага будаўніцтва і яго шпаркі посьпех залежыць ад сыстэматычнага ўзмацненьня і ўсямернага росту аграмаджаных фондаў калгаснага руху. Рост і ўзмацненьне аграмаджаных фондаў калгасаў зьяўляецца базаю стварэньня неабходных сродкаў вытворчасьці калгасаў. Усямернае павялічэньне гэтай вытворчай базы калгасаў і барацьба супроць разбазарваньня інвэнтару (жывога і мёртвага) з боку ўступаючых у калгасы новых сяброў—зьяўляюцца неабходнай зброяй разгортваньня калгаснага руху. Трэба ўзяць за правіла, праводзячы цьвёрда і рашуча, што дзяржаўная дапамога калгасам даецца пры ўмове ўкладаньня ў калгасы з боку самаго сялянства і асабліва пры ўмовах выкананьня калгасамі прыстасаваных статутамі і дагаворамі патрабаваньняў аб накапленьні ўнутрыкалгасных фондаў. Дзеля гэтага павінна быць устаноўлена абавязковае адлічэньне ў непадзельныя фонды калгасаў, мабілізацыя паёў і заснаваньне спэцыяльных фондаў мэтавага назначэньня (збор задаткаў для набыцьця трактараў, арганізацыя індустрыяльных прадпрыёмстваў, стварэньне спэцыяльнага экспортнага фонду для павялічэньня імпарту трактараў, с.-г. машын і г. д.).

8. Аднэю з форм вытворча-эканамічнага рэгуляваньня калгасаў з боку пралетарскай дзяржавы павінна быць заключэньне калгасамі дагавораў аб кантрактацыі, якія лічаць сваёй задачай павялічэньне таварнасьці калгасаў і забесьпячэньне плянавай часткі імі дзяржаве таварных лішкаў на аснове павялічэньня вытворчасьці калгасу і разьвіцьця іх элемэнтаў аграмаджаньня. Крэдытаваньне і забясьпека калгасаў сродкамі вытворчасьці, і агразоотэхнічнае абслугоўваньне павінны праводзіцца на ўмовах, якія прадугледжваюць абавязковую здачу калгасамі ў вызначаныя тэрміны ўстаноўленых дагаворамі разьмераў таварнай прадукцыі як па збожжавай галіне гаспадаркі, так і па галіне жывёлагадоўлі, птушніцтва, сыравінных і спэцыяльных культур і г. д., у адпаведнасьці з кірункам іх гаспадаркі.

У сувязі з гэтым неабходна павесьці рашучую барацьбу з тымі калгасамі, якія ня выконваюць сваіх абавязацельстваў у адносінах да дзяржавы, лічачы за лепшае прадаваць лішкі сваёй прадукцыі прыватніку.

9. Перад калгасным рухам, які разгортваецца, галоўным чынам, па лініі калектывізацыі збожжавай галіны сельскай гаспадаркі, павінна быць пастаўлена задача ўсямернага паскораньня працэсу аграмаджаньня іншых галін сельскай гаспадаркі на аснове спэцыялізацыі калгасаў у адпаведнасьці з с.-г. раёнаваньнем. Адзначаючы недастатковую працу калгаснай сыстэмы ў гэтай галіне і недастатковую ўвагу гэтай важнейшай задачы з боку спэцыяльных цэнтраў с.-г. каапэрацыі, пленум ЦК прызнае неабходным фарсіраваць разгортваньне будаўніцтва спэцыяльных жывёлагадоўчых, малочных, збожжавых, гародных, тэхнічных і іншых саўгасаў, якія павінны стаць галоўнай базай для забесьпячэньня ўзрастаючых харчовых, сыравінных і экспартных патрэб краіны.

Калгаснае будаўніцтва, зьяўляючыся непадзельнаю часткаю адзінага каапэрацыйнага пляну Леніна, кіруючай формай каапэраваньня, можа з посьпехам разьвівацца, абапіраючыся на ўсю сыстэму с.-г. каапэрацыі, якая з забясьпечваючай каапэрацыі і самых простых відаў калгасных таварыстваў усё больш і больш перарастае ў калгасны рух. Важнейшай арганізацыйнай задачай зьяўляецца з гэтае прычыны ўстанаўленьне правільных узаемаадносін калгаснай сыстэмы са спэцыяльнымі сыстэмамі с.-г. каапэрацыі.

Пленум ЦК прызнае неабходным, поруч з арганізацыйным узмацненьне і ўмацаваньнем матар'яльна-тэхнічнай базы спэцыяльных сыстэм с.-г. каапэрацыі, заснаваць пры асноўных спэцыяльных цэнтрах і спэцыяльных саюзах, с.-г. каапэрацыі на мясцох, у парадку, які

ўстанаўляецца ў адносінах да калгасцэнтраў, аўтономныя сэкцыі калгасаў, якія абапіраюцца непасрэдна на калгасы і іх аб'яднаньні і ажыцьцяўляюць іх арганізацыйнае і каапэрацыйнае абслугоўваньне. Спэцыяльныя цэнтры с.-г. каапэрацыі павінны ажыцьцяўляць будаўніцтва калектыўных гаспадарак у абслугоўваемых імі галінах сельскай гаспадаркі пад непасрэдным кіраўніцтвам калгасцэнтраў і калгассаюзаў, у шчыльнай увязцы з адпаведнымі галінамі прамысловасьці. Улічваючы шпаркі рост калгаснага будаўніцтва, неабходнасьць узмацненьня кіраўніцтва гэтым будаўніцтвам, каб даць яму тэхнічную дапамогу (асабліва ў сувязі з разгортваньнем прадпрыемстваў па перапрацоўцы с.-г. продуктаў), Пленум ЦК — прызнае мэтазгодным заснаваньне пры Калгасцэнтры асобных буйнейшых калгасных аб'яднаньняў спэцыяльных арганізацый для абслугоўваньня патрэб капітальнага будаўніцтва ў калгасах (Калгасбуд). Асаблівае значэньне набывае ў сучасны момант праца саюзу с.-г. каапэрацыі, як цэнтру, які аб'яднае ўсю с.-г. каапэрацыю, уключаючы і калгасную сыстэму.

10. Трэба асобна падкрэсьліць, што ў нацыянальных раёнах, дзе яшчэ ў вёсцы (ауле) былі рэшты фэадальна-родавых адносін, дзе адбываецца працэс пераходу ад качэўнай і паўкачэўнай гаспадаркі да асяданьня і земляробчага асваеньня зямляў— калектывізацыя прасоўваньнем перадавой машыннай тэхнікі ў сельскую гаспадарку адыгрывае рашаючую ролю ў справе ўздыму матар'яльнага і культурнага ўзроўню мас і ўцягненьня іх у сацыялістычнае будаўніцтва. Пленум прапануе Калгасцэнтру і машыназабясьпечваючым арганізацыям аддаць належную ўвагу калектывізацыі ў нацыянальных раёнах, усімі мерамі спрыяючы гэтай справе.

11. Саўгасы, зьяўляючыся сельска-гаспадарчымі прадпрыемствамі пасьлядоўна-сацыялістычнага тыпу, павінны ў сваёй практычнай працы ў яшчэ большай ступені, чымся да гэтага часу, служыць прыкладам таго, як трэба арганізаваць буйную вытворчасьць, выкарыстаць высокую тэхніку ў сельскай гаспадарцы. Разам з тым гэтыя дзяржаўныя прадпрыёмствы (саўгасы), маючы моцны матар'яльна-тэхнічны апарат, павінны павялічыць сваю ролю рычагоў, якія спрыяюць пераходу індывідуальных сялянскіх гаспадарак на рэйкі калектывізацыі. Неабходна падахвочваць ініцыятыву ў справе заснаваньня непасрэднай гаспадарчай сувязі між дзяржаўнымі прамысловымі прадпрыемствамі (цукровыя, лёнаапрацовачныя, бавоўна-ачыстныя заводы і г. д.) і саўгасамі, з аднаго боку, і акаляючымі калгасамі—з другога, ствараючы ва ўсіх магчымых выпадках пад агульным кіраўніцтвам гэтых прамысловых прадпрыёмстваў і саўгасаў мешаныя саўгасна-калгасныя аб'яднаньні з паголжаным гаспадарчым плянам, з агульнай тэхнічнай базай (трактарныя калёны, рамонтныя майстэрні і г. д.) з агульнымі прадпрыемствамі па перапрацоўцы с.-г. прадуктаў (масларобныя, сыраварныя і лёнаапрацовачныя заводы, млыны і г. д.).

12. У сувязі з бурна разгортваючымся калгасным рухам і пастаўленай перад рабочаю клясаю і сялянскімі масамі задачай узьняцьця гэтага руху на больш высокую ступень, пленум ЦК перасьцерагае супроць недаацэнкі цяжкасьцяй калгаснага будаўніцтва і асабліва супроць формальна бюракратычнага падыходу да яго і ацэнцы яго вынікаў. Пленум ЦК лічыць важнейшай задачай саветаў, асабліва на вёсцы, усямернае павялічэньне ўвагі да справы калектывізацыі. Увага саветаў павінна быць накіравана на найбольш поўнае абслугоўваньне насельніцтва калгасаў, на перавод іх у базы ўздыму і сацыялістычнай перабудовы с.-г. вытворчасьці, у базы агрыкультурных, сацыяльна-бытавых і культурных мерапрыемстваў саветаў. Неабходна ўзмацніць кіруючую ролю саветаў у адносінах да калектываў, павялічыць адказнасьць саветаў за калгаснае будаўніцтва, увесьці ў сыстэму справаздачу калгасаў перад саветамі, не дапушчаючы, аднак, дробязнай адчыткі і адміністрацыйнага ўмешваньня ў кіраўніцтва калектывамі.

У працы прафсаюзаў калектывізацыя вёскі павінна заняць адно з галоўных месц. Кіруючая роля рабочай клясы ў калгасным руху павінна быць замацавана рашучым вылучэньнем рабочых у якасьці арганізатараў і кіраўнікоў калгасаў і калгаснай сыстэмы ва ўсіх яе зьвеньнях; гэта дасьць магчымасьць узьняць калгасны рух на больш высокі ўзровень і дамагчыся хутчэйшага пераходу да сапраўдна-сацыялістычнага зямляробства.

Пленум ЦК адзначае ўзрастаючаю цягу прамысловых рабочых да актыўнага ўдзелу ў калектывізацыі вёскі, гэта цяга выяўляецца ў масавай арганізацыі рабочых брыгад, у вылучэньні ініцыятараў і арганізатараў калгаснага будаўніцтва, ва ўдзеле рабочых у вытворчых нарадах калгасаў, правядзеньні «дню ураджаю і калектывізацыі» і г. д. Гэта масавая ініцыятыва рабочых фабрык і заводаў павінна быць усямерна падтрымана і разьвіта, асабліва на аснове ўзаемнай вытворчай зацікаўленасьці. Павінна быць узмоцнена праца сэкцый таварыстваў па калектывізацыі вёскі, паскорана арганізацыя новых таварыстваў дапамогі калектывізацыі земляробства, пашырэньне ўдзелу рабочых у правядзеньні калгасаў кантрактацыі для забясьпекі прамысловасьці сыравінай і рабочых цэнтру харчамі, пашырана практыка праслухваньня дакладаў калгасаў па прадпрыемствах, выезды рабочых брыгад у калгасы і г. д.

Пленум зварочвае ўвагу на неабходнасьць усямернага пашырэньня працы па масавым уцягненьні батрацтва ў калгасы і на асаблівую ролю ў гэтых адносінах саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых. У сувязі з новымі задачамі, вялічэзным павялічэнь-

нем размаху калгаснага руху і абвастрэньня клясавай барацьбы на вёсцы, неабходна ўсямернае ўзмацненьне парткіраўніцтва калгасным рухам. Для гэтага неабходны самы актыўны ўдзел усіх ячэек партыі на вёсцы ў калгасным будаўніцтве, а таксама ўсямернае павялічэньне дапамогі калгаснаму руху з боку ўсіх партыйных арганізацый.

Неабходна адзначыць недастатковасьць працы камсамольскіх арганізацый у справе калектывізацыі. Важнейшым абавязкам камсамолу на вёсцы зьяўляецца—ісьці ў першых шэрагах калгаснага руху і сыстэматычна вылучаць з свайго асяродку тысячы і тысячы арганізатараў калгасаў. Пры ўзмацненьні працы па правядзеньні дырэктывы 16-й партканфэрэнцыі аб уцягненьні ў шэрагі камсамолу і камуністычнай партыі найбольш сьвядомых і найбольш адданых сацыялістычнай справе сяброў калгасаў неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на арганізацыю і ўзмацненьне партыйных ячэек у буйных калгасах. Партыйныя арганізацыі павінны на справе стаць на чале калгаснага руху, забясьпечыўшы сваім кіраўніцтвам узмацненьне калгаснага руху, як асноўнага русла ўцягненьня шырокіх мас сялянства ў справу будаўніцтва сацыялізму.

Пералом, які адбыўся ў шырокіх масах сялянства, у адносінах да калектывізацыі сельскай гаспадаркі з надыходзячымі веснавымі засеўнымі кампаніямі павінен стаць апорным пунктам новага руху наперад ва ўздыме бядняцка-серадняцкай гаспадаркі і сацыялістычнай перабудове вёскі. Разгортваючы па ўсім фронце наступ на капіталістычныя элемэнты і ўсямерна ўзмацняючы вытворчую сувязь сацыялістычнай індустрыі з сельскай гаспадаркай, партыйныя арганізацыі павінны своечасна мабілізаваць сілы для правядзеньня надыходзячай засеўнай кампаніі, маючы на мэце задачы далейшага разьвіцьця масавага вытворчага каапэраваньня, калектывізацыі сялянскіх гаспадарак і разгортваньня будаўніцтва саўгасаў.

Пасьпяховы рост хлебазагатовак і сканчэньне іх у пачатку новага году вызваляе сілы партыі, саветаў і каапэрацыі і ставае для правядзеньня пасеўнай кампаніі спрыяючыя ўмовы. Мабілізуючы сілы рабочай клясы і дамагаючыся найбольшай арганізаванасьці і актыўнасьці рабочай грамадзкасьці ў падрыхтоўчай працы, партыя ў надыходзячай засеўнай кампаніі павінна згуртаваць масы сялянства для ажыцьцяўленьня задач гаспадарчага ўздыму і пераходу да калектыўных форм земляробства. Толькі такім чынам аб'яднаўшы масы бядняцкага і серадняцкага сялянства наваколо партыі і саветаў, рабочая кляса здолее забясьпечыць рашучае ўзмацненьне сельска-гаспадарчай базы сацыялістычнай індустрыялізацыі краіны і тым самым забясьпечыць замацаваньне ўсёй справы будаўніцтва сацыялізму.



Дэманстрацыя ў дзень XII-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі ў г. Менску.

# Чарговыя задачы пры правядзеньні вясновай сельска-гаспадарчай кампаніі 1929-30 году.

Праца мінулага году па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, па рашучаму наступленьню на кулацка-заможныя слаі вёскі, на рашучаму выкарчоўваньню капіталізму ў вёсцы паказала цэлы шэраг посьпехаў на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Ахоплена пад калгасы і саўгасы на 1-е кастрычніка да 5 проц. усяе зямельнае тэрыторыі БССР. Павялічана пасеўная плошча на 2,2 проц. у параўнаньні з мінулым годам. Павялічана ўраджайнасьць на 8 проц. у індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках, на 12 проц. у калгасах і на 17 проц. у савецкіх гаспадарках; ачышчана насеньне ў вясновую пасеўкампанію да 65 проц. і ў асеньнюю 45 проц. усяго пасеўнага матар'ялу. Праведзена павярховае палепшаньне сенажацяй; сабрана попелу каля 1 млн. пудоў; вылучана каля 24.000 аграўпаўнаважаных.

Гэтыя станоўчыя бакі з усёй яскравасьцю і катэгарычнасьцю падкрэсьліваюць, што толькі дзякуючы рашучаму правядзеньню генэральнай лініі партыі было магчыма атрымаць гэткія вынікі, а таксама і цалкам абвяргаюць хлусьню з боку правых аб дэградацыі сельскае гаспадаркі.

Гэтыя станоўчыя бакі былі дасягнуты дзякуючы максымальнай мабілізацыі ўвагі ўсяе партыі, усяе савецкае грамадзкасьці. Побач са станоўчымі бакамі працы па правядзеньню сельска-гаспадарчых кампаній, мы мелі таксама цэлы шэраг адмоўных бакоў, якімі трэба лічыць: усё яшчэ недастаткова пастаўленую працу па вытворчаму абслугоўваньню калгасаў і вытворчых коопэратываў, усё яшчэ недастаткова пастаўленую працу на эканамічнай дапамозе, якую аказвала дзяржава беднаце, частыя выпадкі распыленьня сродкаў дзяржавы, досыць частыя выпадкі фармальных адносін з боку зямельных і каапэрацыйных працаўнікоў да задач разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы; зусім слабая праца аграўпаўнаважаных па правядзеньню закону аб падвышэньні ўраджайнасьці і агрwelmінімуму.

Усе гэтыя акалічнасьці ўжо зараз ставяць задачу зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку да веснавое сельска-гаспадарчае кампаніі 1929-30 году.

У надыходзячую веснавую кампанію, як і ў мінулую, трэба зьвярнуць увагу на выкананьне асноўных дырэктыў партыі і ўраду па калектывізацыі сельскае гаспадаркі, па вытворчаму каапэраваньню, па ўзбуйненьню існуючых калгасаў і саўгасаў, па аказаньні матар'яльнае і тэхнічнае дапамогі бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, па далейшаму ўздыму вытворчасьці сельскае гаспадаркі шляхам падвышэньня ўраджайнасьці, палепшаньня жывёлагадоўлі, пашырэньня пасеўных плошчаў і г. д.

Мінулая вясновая сельска-гаспадарчая кампанія праходзіла ў абвостранай клясавай барацьбе; кулак у вёсцы прымаў усе крокі да таго, каб пашкодзіць сацыялістычнаму будаўніцтву, актыўна ўдзельнічаў супроць арганізацыі калгасаў, супроць агратэхнічных мерапрыемстваў, супроць пашырэньня пасеўных плошчаў. Усё гэта павінна паставіць пытаньне перад кожным працаўніком на вёсцы аб тым, што клясавая барацьба яшчэ ня скончана, што клясавыя ворагі яшчэ канчаткова не дабіты, і будуць рашуча супроцьпастаўляць сваю лінію супроць лініі партыі і ўлады па далейшай шпаркай сацыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б, які разглядаў кантрольныя лічбы сацыялістычнага будаўніцтва на 1929-30 год, а таксама апошні пленум ЦК УсеКП(б) далі зусім грунтоўныя ўстаноўкі як па будаўніцтву прамысловасьці, так і сельскае гаспадаркі. ЦК КП(б)Б для пасьпеху калгаснага будаўніцтва ўжо зараз патрабуе павялічэньня заданьня да 25 процантаў у веснавую сяўбу і да 40 процантаў у васеньнюю, з такім разьлікам, каб калектывізацыю сельскае гаспадаркі ў асноўным скончыць у два-тры гады. Тымі-ж кантрольнымі лічбамі намечана падвышэньне ўраджайнасьці ў саўгасах на 30 процантаў, у калгасах на 25 проц., у індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках на 20 проц. у адносінах да ісходнага 1927-28 году; правесьці зернаачыстку на 100 проц. па яравых культурах, узмацніць прымяненьне аграмінімуму ва ўсіх сэктарах сельскае гаспадаркі. Гэтыя генэральныя ўстаноўкі патрабуюць ужо зараз завастрыць асаблівую ўвагу ўсёй партыйнай і савецкай грамадзкасьці па іх ажыцьцяўленьню ў веснавую сельска-гаспадарчую кампанію. Ужо зараз трэба шырока разгарнуць працу па масавай калектывізацыі сельскае гаспадаркі цэлых вёсак, сельсаветаў з тым, каб з вясны надыходзячага году магчыма было-б вытварыць засеў суцэльнымі абагуленымі плошчамі з тым, каб у зімовы час гэтыя калгасы маглі быць аформлены, складзены вытворчыя праграмы і заданьні.

Ужо зараз трэба праверыць ход сацыялістычнага спаборніцтва, а таксама разгарнуць працу па сацыялістычнаму спаборніцтву паміж саўгасамі, калгасамі, паасобнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі, за пашырэньне пасеўнае плошчы, за большы ўраджай, за пашырэньне таварнасьці сельскае гаспадаркі, за ўтварэньне сырцовай і харчовай базы для сацыялістычнае індустрыі.

Ужо зараз трэба правесьці ў саўгасах, калгасах, індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках мерапрыемствы, якія-б забясьпечвалі падвышэньне ўраджайнасьці сельскае гаспадаркі шляхам выкарыстаньня мясцовых магчымасьцяй зернаачысткі, збор попелу на ўгнаеньне, прымяненьне вапны, торфу, як угнаеньня, завоз і выкарыстаньне мінэральных угнаеньняў, абмен насеньня на завазімае чыстагатункавае і г. д.

Ужо зараз трэба прыступіць да зернаачысткі шляхам выкарыстаньня ўсіх машын земорганаў, саўгасаў, калгасаў, камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі, прычым з боку сельсаветаў і райвыканкомаў трэба прыняць усе захады да таго, каб, па-першае, праверыць, а, па-другое, прасачыць за выкананьнем пастановы СНК БССР па пытаньню закупкі ўсімі трымацелямі млыноў зернаачышчальных машын, прылад за невыкананьне вінаватых у гэтым прыцягнуць да адказнасьці, як за зрыў такога вельмі важнага гаспадарчага мерапрыемства.

Ужо зараз трэба канкрэтна высьветліць вольныя зямельныя плошчы з мэтай іх калектыўнага засеву, а таксама своечасова падрыхтавацца да таго, каб тыя плошчы, якія паспрабуюць кулацкія гаспадаркі пакінуць незасеянымі, своечасова засеяць калектыўна, праз шырокую арганізацыю бядняцка-серадняцкай самадзейнасьці, праз хуткае выняцьце гэтых зямель ад кулакоў і перадачу іх блізнаходзячымся калгасам.

Ужо зараз трэба разгарнуць працу па рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару і прылад праз кузьні камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі, саўгасаў і калгасаў.

Ня меншае значэньне ў падрыхтоўцы да вясновае сельска-гаспадарчае кампаніі трэба прыдаць пытаньню нарыхтовак дэфіцытнага насеньня

канюшыны, сэрадэлі, лубіну, вікі, прычым гэтым нарыхтоўкам трэба прыдаць на мясцох такі-ж ударны характар, які партыя і ўрад падаюць пытаньню нарыхтовак хлеба, сыравіны і г. д., памятуючы пры гэтым, што насеньне канюшыны, вікі, сэрадэлі ў значнай меры вырашае кармавое пытаньне для далейшага разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Ужо зараз трэба ўдзяліць максымум увагі выкананьню пастаноў СНК па пытаньню аб шляхох разьвіцьця жывёлагадоўлі пад пунктам погляду далейшага павялічэньня гуртоў у саўгасах і калгасах, малочна-жывёлаводных таварыствах, шляхам закупкі і вырасьліваньня з мясцовай прадукцыйнай жывёлы, трэба, каб вакол задач разьвіцьця жывёлагадоўлі сканцэнтраваць усю ўвагу бядняцка-серадняцкіх мас насельніцтва.

Ужо зараз трэба зямельным, каапэрацыйным органам зьвярнуць асаблівую ўвагу на распаўсюджаньне сельска-гаспадарчых ведаў сярод насельніцтва, праз школы, хаты-чытальні, масавую сельска-гаспадарчую літаратуру і гэтак далей.

Надыходзячую перавыбарчую кампанію камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі, партыйныя, савецкія і зямельныя органы павінны выкарыстаць для максымальнае мабілізацыі ўвагі бядняцка-серадняцкіх колаў насельніцтва за ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па калектывізацыі і вытворчаму каапэраваньню сельскае гаспадаркі, па рашучаму адпору кулаку, супроцьпастаўляючаму сваю лінію лініі, правадзімай бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі пад кіраўніцтвам партыі.

Трэба пры правядзеньні вясновае сельска-гаспадарчае кампаніі забясьпечыць з боку зямельных, каапэрацыйных і крэдытных органаў чоткую клясавую лінію, памятуючы, што здача клясавых пазіцый, у чым-бы яна не выяўлялася, ёсьць дзейнасьць, калі салдат-рэвалюцыянэр у барацьбе перадае сваю зброю ворагу. Трэба ўжо зараз датэрмінова спагнаць сродкі, якія ў паасобных выпадках выданы былі заможным кулацкім гаспадаркам, трэба, каб матар'яльная і грашовая дапамога, адпушчаемая дзяржавай, абавязкова была накіравана ў калгасы, саўгасы і бядняцкія гаспадаркі.

Правядзеньне веснавое сельска-гаспадарчае кампаніі і яе ход трэба паставіць пад неаслабны нагляд усіх партыйных, савецкіх органаў зьверху да нізу, а таксама друку, мабілізаваць шырокія колы рабкораў, селькораў на барацьбу з тымі перашкодамі, якія будуць сустракацца на шляхох сацыялістычнага будаўніцтва.

Пасьпяховым выкананьнем вясновае сельска-гаспадарчае кампаніі трэба яшчэ раз ударыць па ныцікох і малаверах з лягеру правых, няверуючых у сацыялістычнае будаўніцтва, яшчэ раз ударыць па клясаваму ворагу ў вёсцы, яшчэ шырэй разгарнуць працу па сацыялістычнаму наступленьню на капіталістычныя элемэнты ў вёсцы.

**К. Масюкоў.**




# Аб адчыненых калгасах [1]).

У нумары 3 часопісу „Шлях каляктывізацыі“ ў сваім артыкуле „Ці патрэбны адчыненыя калгасы“ аўтар выказвае думку аб неабходнасьці ў БССР асабовай формы адчыненага калгасу. Грунтоўным матывам аўтара да ўтварэньня гэтай новай формы калгасу зьяўляецца—прадастаўленьне шырокай магчымасьці бядняцка-серадняцкаму насельніцтву дробных пасёлкаў да пераходу на калектыўную форму гаспадаркі, бяз новага зямляўпарадкаваньня і без *парушэньня існуючай садзібы* [2]).

Згаджаючыся з высунутым матывам, неабходна яшчэ дадаць, што гэты матыў мае вялікае значэньне ня толькі для дробных пасёлкаў, але і для буйных незямляўпарадкаваных вёсак як з пункту погляду зямляўпарадкаваньня калгасаў, якое да гэтага часу яшчэ адстае ад росту новых калгасаў, так і ў адносінах неабходнасьці максымальнага выкарыстаньня магчымасьцяй пры арганізацыі новых калгасаў да застаўленьня іх на старай сядзібе. Але ці патрэбна для гэтага адшуканьне новых форм калгаснага будаўніцтва наогул і ў прыватнасьці форма адчыненага калгасу?

Разгледзім папярэдня ў чым сутнасьць адчыненага калгасу.

Гэтая форма калгасу ўжо існуе каля году ў многіх мясцох УССР. Па сваёй вытворчай сутнасьці гэтая форма калгасу прадстаўляе сабою Т-ва па супольнай апрацоўцы зямлі, але з тэй розьніцай, што за кожным членам адчыненага калгасу захоўваецца разьмер зямельнага надзелу, які меўся да ўступленьня ў калгас, з шырокай магчымасьцю атрыманьня гэтага надзелу і пры выхадзе з калгасу. Разьмеркаваньне ўраджаю паміж членамі ўтвараецца таксама, у асноўным, па зямельных долях. Такім чынам гэтая форма калгасу дае магчымасьць бядняцка-серадняцкаму насельніцтву на практыцы, без значнага парушэньня маёмасна-прававых узаемаадносін паасобных двароў упэўніцца ў перавагах буйнай калектыўнай гаспадаркі перад паасобнай дробнай. Бязумоўна, гэта мае вялікае значэньне, але пры ўмовах шырокай машынізацыі гаспадаркі і ў першую чаргу паляводзтва.

Разам з гэтым форма адчыненага калгасу мае і вялікі недахоп, вынікаючы з магчымых частых парушэньняў разьмеру зямельнага вучастку, а стала быць і належнай устойлівасьці ўсёй гаспадаркі неабходнай для рацыянальнай яе арганізацыі. Адсутнасьць належнай устойлівасьці ў гаспадарцы калгасу, асабліва ва ўмовах невялікага разьмеру зямельнай плошчы іншы раз і пры існуючых формах калгасаў перашкаджае належнай машынізацыі і індустрыялізацыі гаспадаркі, а разам з гэтым і выкарыстаньню ўсіх пераваг буйнай калектыўнай гаспадаркі. Улічваючы пры гэтым асаблівасьці сельскай гаспадаркі БССР і ў першую

---

[1]) Друкуецца ў парадку абгаварэньня.

[2]) Падкрэсьлена мною. *Д. Л.*

чаргу інтэнсыўныя формы ў яе разьвіцьці становіцца відавочным, што форма адчыненага калгасу ў БССР, як асабовая юрыдычная адзінка не патрэбна.

Найбольш падыходзячым для ўмоў БССР прасьцейшым відам калгасу зьяўляецца існуючая форма Т-ва па супольнай апрацоўцы глебы, але, як паказвае практыка калгаснага будаўніцтва і гэтая форма калгасу распаўсюджваецца досыць слаба. На 1-X-29 г. Т-вы па супольнай апрацоўцы зямлі ў БССР займаюць усяго каля 10 проц. ад агульнага ліку калгасаў, а астатнія 90 проц. складаюць вышэйшыя формы, с.-г. арцелі і камуны з поўным абагуленьнем сродкаў вытворчасьці і працы. Адначасова назіраецца досыць значнае імкненьне да пераходу існуючых Т-ваў па супольнай апрацоўцы зямлі ў адзначаныя вышэйшыя формы калгасаў.



Машыны адрамантаваны і падрыхтаваны да спрату. Калгас „РАСЬСЬВЕТ-ПАБЯДЗІЦЕЛЬ-Майскае“.

Акрамя адзначанага, трэба мець на ўвазе, што з павялічэньнем форм калгасаў ускладняецца і справа кіраўніцтва і абслугоўваньня калгаснага будаўніцтва. Справа паглыбленьня і пашырэньня калгаснага будаўніцтва ў сучасны момант патрабуе не адшуканьня новых форм будаўніцтва, а адшуканьня новых мэтадаў працы, удасканаленьня і набліжэньня працы ўсіх устаноў і ў першую чаргу самой калгаснай сыстэмы да запатрабаваньняў масавага калгаснага руху. У сучасны момант праводзіцца рэарганізацыя ўсяе сыстэмы с.-г. каапэрацыі. Асноўная мэта гэтай рэарганізацыі—максымальнае набліжэньне працы с.-г. каапэрацыі да вытворчых працэсаў сялянскай гаспадаркі, з шырокім садзейнічаньнем яе перабудове ў буйную калектыўную гаспадарку. Першапачатковым зьвяном вытворчай с.-г. каапэрацыі вызначаецца пасялковае Т-ва. Бязумоўна, што побач з правядзеньнем шэрагу мерапрыемстваў масавага характару, як кантрактацыя, гатунковае насеннаводзтва, пабудова сілосаў, арганізацыя прадпрыемстваў па пераапрацоўцы с.-г. сыравіны і інш., асноўнай задачай пасялковага Т-ва незалежнага ад яго віду (паляводзтва, жывёлаводзтва ці садовагароднікцтва), павінна зьяўляцца і арганізацыя агульных запашак і пераходу да агульнай апрацоўкі зямлі сярод сваіх членаў як цэлага пасёлку, так і тэй альбо іншай яго часткі.

Д. Л.



Праца ворыва на зяб 22 плугамі ў сьвята „зьнішчэньня межаў“ у в. Пятроўшчына.

# Новым калгасам ударым па ворагу.

У 1929 годзе група грамадзян в. Петрапольле, Навінкаўскага с.-с., Чачэрскага раёну ў ліку 9 гаспадарак пажадала арганізаваць калгас. Але спачатку пытаньне аб арганізацыі калгасу было цяжка вырашыць. Па-першае, сама ініцыятыўная група была занадта малой, бо рэшта бядняцка-серадняцкіх гаспадарак пад уплывам мясцовага кулацтва, заставалася ў баку ад справы арганізацыі. А па-другое, кулацтва, а таксама і частка хутаранцаў, якіх у вёсцы было 9 гаспадарак, перашкаджалі справе арганізацыі калгасу. Але рашучасьць беднаты, пры дапамозе камуністычнай партыі і ўлады, перамагла. Да „Дню калектывізацыі“ бедната і серадdespite падрыхтаваліся належным чынам і 29 гаспадарак арганізавалі калгас пад назвай „Актывісты“ на плошчы 1.090 гектараў.

Ф. Ш.



Сьвята „зьнішчэньня межаў“, у вёсцы Пятрапольле, Чачэрскага раёну.

# Яўрэі-земляробы.

Ад гораду Воршы да „Чырвонага Кастрычніка“—цьвіковага заводу і сельска-гаспадарчай арцелі—кілёмэтраў восем. Яны раскінуліся ў зеляніне хмызьняку. Адрозьніць іх можна толькі па вытворчасьці. У аднаго заводу дымяцца высокія коміны, а ў карпусах грукацяць і гудуць цьвіковыя варштаты. У другога, калгасу, шырока распрасьцерліся палі, на якіх арудуе жалезны араты, трактар „Інтэрнацыянал“.



Стары калгасьнік яўрэйскага калгасу „Эрштэ - Май“, Астэрманск.

У пасёлку жывуць рабочыя заводу і калектывістыя. Хату старшыні калгасу прыходзіцца доўга шукаць, але і знайшоўшы хату, трэба знайсьці і старшыню, які заўсёды чым-небудзь заняты. Старшыня калгасу, Рабіновіч Абрам, зьяўляецца трактарыстым, і крупадзёрам, і паляводам. Ён яшчэ зусім малады, камсамолец.

Сучасныя калгасьнікі раней былі гароднікамі каля гораду, саматужнікамі, фурманамі і толькі два з чатырнаццаці—гандлявалі мясам.

Гэтым новым людзям, якія пажадалі працаваць на зямельцы, есьці хлеб здабыты сваімі рукамі, адвялі 156 *га* зямлі, далі якіясь-та паўразваленыя будынкі, і сказалі: „Можаце гаспадарыць“.

За гэтым справа ня стала. Гаспадарыць калгасьнікі ўзяліся адразу. Перш за ўсё яны ўнясьлі па сотні рублёў паі, да паёў дадалі атрыманую пазыку, купілі патрэбны інвэнтар, паступова купілі кароў, коняй і зрабіліся сапраўднымі вясковымі гаспадарамі-калектывістымі.

Мясцовыя кулакі спрабавалі пасварыць калгасьнікаў з мясцовай сялянскай беднатой і сараднякамі. Кулакі добра ведалі, што калгас—гэта канец панаваньню кулакоў у вёсцы над беднатой. Кулакі прабавалі і так і гэтак, але нічога ня вышла. Тады чыя-та злачынная рука з іх, падпаліла хлеў калгасу. У хляве згарэла дваццаць племянных кароў. Страт ад пажару было на пяць тысяч рублёў. Але пажар не запужаў калгасьнікаў, яны яшчэ мацней узяліся за працу і за адзін першы год страты былі пакрыты з лішкаю: калгас атрымаў 4000 руб. чыстага прыбытку.

У параўнаньні з мінулым, у сучасны момант, калгас у гаспадарчым становішчы значна вырас. Пай на кожнага калгасьніка даходзіць да 150 руб., а агульны балянс арцелі за апошні год—44.000 руб.

Калгасьнікі самі пабудавалі крупадзёрку. Яна ім каштавала 8.000 р. За якога-небудзь паўгода працы, крупадзёрка сябе апраўдала і дае значны прыбытак. Працуе крупадзёрка па ўмове з Хлебсаюзам, якому яна вырабляе аўсяныя крупы. Гэтай самай крупадзёркай калгасьнікі далі поўную нагрузку свайму трактару.

Цяпер калгас мае ўвесь патрэбны інвэнтар ад трактара і склада най малатаркі да конных плугоў і барон.

У галіне жывёлаводзтва калгас таксама не адстае. Пасьля пажару ў калгасе засталося ўсяго дзесяць кароў. Цяпер іх калгас мае 42 штукі і пераважна сімэнталак. Кормяць кароў па норме, і ў вызначаны для гэтага час. Дзякуючы гэтаму калгаскія каровы даюць добрыя ўдоі малака, значна вышэй, чымся сялянскія. Некалькі штук кароў у калгасе даюць у дзень ад 18 да 22 літраў малака, а рэшта 15—16 літраў. Усё малако калгас збывае рабочым заводу „Чырвоны Кастрычнік".

Коняй калгас мае толькі восем, але іх даволі на розную працу, бо палявыя работы выконваюцца трактарам.



Прыборка сенажаці ў калгасе „Эштэр-Май", Астэрманск.

Вельмі значна пахіснулася глеба пад талмудам (яўрэйскае евангельле) у калгасе. У хуткім часе калгас арганізуе паказальны сьвінарнік па вырашчваньню і выкармцы бэконных сьвіней. Труднавата было спачатку моладзі ўламаць дзядоў згадзіцца на арганізацыю сьвінарніка, але ўламалі. Дзяды пабачылі, што моладзь ад сваіх мэт не адступае і пашлі на ўступкі.

Кепска ў нас толькі адно,—кажуць калгасьнікі,—што ніяк не дабіцца лесу на будынкі. Старыя ўжо развальваюцца, трэба будаваць новыя, лес патрэбен да зарэзу, але яго не даюць.

І сапраўды, старыя будынкі больш прыгодны на дровы, чымся на тое, каб у іх можна было жыць. З прычыны гэтага ў калгасьнікаў вельмі дрэнныя жыльлёвыя ўмовы. Праўда тут-жа з некаторымі калгасьнікамі жывуць яшчэ і рабочыя, бо для іх таксама кватэр не хапае. За адсутнасьцю жыльлёвых памяшканьняў, калгас ня можа прымаць новых сяброў, ня можа павялічваць сваю працоўную сілу, ня можа расьці. Вакольнае сялянства просіцца ў калгас І каб гэта ўлічылі, каб далі калгасу лесу, ён-бы яшчэ больш вырас, прыняў-бы новых сяброў.

Хаця калгас „Чырвоны Кастрычнік" мае жывелаводны ўхіл, аднак і паляводзтва вядзецца добра. У калгасе дзесяціпольны севазварот. Аграмінімум праведзен у жыцьцё цалкам, за выключэньнем радавога высеву, бо няма радавога сяўняка. Палі калгасу даюць добрыя ўраджаі. У 1927 г., першым годзе існаваньня калгасу, жыта і авёс далі ўраджай 10 цэнтнэраў з гэктару, у 1928 г.—13 цэнтнэраў. У гэтым годзе ўраджай жыта ўжо—17 цэнтнэраў з *га*. Авёс-жа павінен даць ня менш як 19 цэнтнэраў. І гэта ў той час, калі сяляне атрымоўваюць толькі па 7—8 цэнтнэ аў з *га*, бо іх палі засьмечаны пустазельлем.

Калгас „Чырвоны Кастрычнік" арганізаваў разам з другімі калгасамі першы чырвоны абоз з хлебам, колектыўна здаў частку сваіх лішкаў дзяржаве і кінуў выклік рэшце калгасам і сялянству Аршаншчыны таксама здаць хутчэй свае лішкі дзяржаве.

Апрача паляводзтва і жывёлагадоўлі, калгас яшчэ займаецца садоўніцтвам і гародніцтвам. Пад гародам у калгасе 7 *га*. Сеюць

розную гародніну і гарод дае добры прыбытак. Сад яшчэ толькі разводзяць. На плошчы ў шэсьць *га* пасадзілі 420 маладых пладовых дрэў. Яны ўсе прыжылі і добра ідуць у рост.

Спачатку свайго існаваньня калгас жыў яшчэ паўіндывідуальным жыцьцём. Разам з тым, што былі калектыўныя каровы, калгасьнікі мелі кожны сваю ўласную. Цяпер гэтага няма. У калгасе ўсё аб'яднана за выключэньнем толькі харчаваньня. І гэта было-б абагулена, каб была магчымасьць хутчэй пабудаваць памяшканьне пад сталоўку, каб далі лесу і не валаводзілі з ім. Каб удалося абагуліць і харчаваньне, тады-б арцель перайшла на статут камуны. Іначай калгасьнікі не згаджаюцца мяняць і назву свайго калгасу.

Ува ўсіх галінах гаспадаркі калгасьнікі праводзяць зьдзельную аплату працы. З увядзеньнем зьдзельшчыны, значна павысіўся і заробак калгасьнікаў. Раней мужчына на падзённай рабоце атрымоўваў па 1 р. 40 кап. у дзень, а цяпер ён атрымоўвае 2 р. 50 к. у дзень. Заробак жанчыны на 15 проц. ніжэй заробку мужчыны і заробак падростка на 15 проц. ніжэй заробку жанчыны. Тут трошкі ня зусім добра. Праца жанчыны, хоць яна і ўжываецца аднолькава з мужчынскай працай, але лічыцца і цэніцца чамусьці ніжэй мужчынскай як па аплаце, так і па якасьці. Праўда, так робіцца ў большасьці нашых калгасаў.

Усім жыцьцём калгасу кіруе камсамольская ячэйка. Два камсамольцы ў праўленьні калгасу і адзін у рэвізійнай камісіі. Сам старшыня Рабіновіч—камсамолец, кандыдат у сябры партыі.

На культасьветную працу кожны год адлічаецца па 2 проц. з прыбытку. За гэтыя сродкі выпісваецца 10 газэт розных назваў і тры часопісі. Ёсьць таксама і невялічкая бібліотэчка. Няма толькі чырвонага кутка, бо няма для яго памяшканьня.

Завод „Чырвоны Кастрычнік" выклікаў свайго цёзку-арцель на спаборніцтва. Арцель у сваю чаргу выклікала калгас „Ларынаўка". Умова па сацыялістычнаму спаборніцтву прадугледжвае падвышэньне ўраджайнасьці, падвышэньне ўдойнасьці кароў, падвышэньне вытворчасьці працы, пабудову новых будынкаў і іншыя гаспадарчыя пытаньні. І калгасьнікі ўмовы выканаюць, калі ім не перашкодзіць якая-небудзь навальніца.

Так жывуць і працуюць новыя хлебаробы, якіх раней лічылі зусім няздольнымі працаваць на зямлі. Гэтых новых хлебаробаў радзіла Вялікая Кастрычнікавая Рэвалюцыя. Разам з гэтым Кастрычнік зруйнаваў і нацыянальную розьнь, якая вякамі сеялася царызмам.

**А. Мілашэўскі.**

# Набываем сталёвага каня.

Даволі ўжо марнаваць коняй, мы набываем сталёвага „каня", кажуць члены калгасу „Камсамольскай волі", калі сяляне ў гутарках з імі пытаюцца аб іх гаспадарцы.

Пачатак арганізацыі гэтага калгасу зрабілі 2 камсамольцы ў 1927 г. Пры арганізацыі калгасу „Камсамольская воля" мелася 23 дзес. зямлі (12 дзес. пахаці, каля 3 дзес. саду і 8 дзес. сенажаці). З будынкаў засталася добрая абора, старая хата і сьвіран. Маемасьці ў час арганізацыі было—1 конь, 1 карова, 1 плуг і зусім мала харчоў як для жывёлы, так і для сябе. Але ЦК ЛКСМБ дапамог нам атрымаць 1.000 руб. крэдыту. Крэдыт дапамог нам у далейшым існаваньні

З вясны 1927 г., як пачалі працаваць на полі ў калгас уступіў батрак т. Фядотаў, а ў ліпені м-цы—Трапашка Васіль. Але Трапашку мусілі выключыць з калгасу. І так да вясны 1928 г. жылі ўтрох. Вясной 1928 г. мы здолелі ўцягнуць ўсю сям'ю Фядотава з маемасьцю. Пасьля гэтага зьявілася патрэба ў прырэзцы зямлі. Цяжка было дабіцца гэтага з-за бюракратычных адносін Менскай акруговай земчасткі, але мы гэтай зямлі дабіліся.

У сучасны момант зямельны вучастак калгасу 300 дзес.; мы маем цяпер не 2 чалавекі, як мелі ў пачатку, а 30. З маемасьці мы маем 14 коняй, 25 кароў з цялятамі, а на зіму мы мяркуем паставіць 40 дойных кароў (харчоў у нас хопіць), 10 сьвіней белай ангельскай пароды і 14 парасят. Заводзім добрых курэй (50 штук віяндотаў), абсталёўваем агульную сталоўку, інтэрнат для нежанатых і асобныя кватэры для жанатых. Рахункаводзтва вядзецца па амэрыканскай форме.

Асаблівую ўвагу мы зварачваем на нашы палеткі, каб на іх быў лепшы, чым у сялян, ураджай. У 27 г. мы на раённай с.-г. выстаўцы атрымалі дыплём, а ў 28 г. першую прэмію (сячкарню). На апошнім паседжаньні савету калгасу было вырашана купіць трактар і паслаць на курсы трактарыстых члена калгасу.

**Воўк Хаім.**

# На фронце калектывізацыі.

## Калектывізацыя сярод нацменшасьцяй БССР.

Усебеларускі зьезд рабочых, калгасьнікаў і сялян-латышоў заявіў ад імя латыскага працоўнага сялянства Беларусі аб тым, што апошняе ўзяло на сябе абавязак у бліжэйшы час правясьці калектывізацыю ў латыскіх вёсках на усе 100 працантаў.

Падобныя заявы ідуць таксама і ад сялянства польскіх і літоўскіх вёсак.

Яўрэйскае сялянства Беларусі з першых-жа дзён асяданьня на зямлю пайшло пераважна па шляху стварэньня калгасаў.

## 25-тысячны гігант.

У сучасны момант самым буйнейшым на Беларусі калгасам—зьяўляецца калгас, „Бальшавік Беларусі" імя ЦК КП(б)Б у Магілеўскай акрузе, які займае плошчу ў 30.000 гектараў зямлі.

Гэты калгас-волат аб'яднае 52 вёскі.

## Суцэльная калектывізацыя Рагачоўска-Жлобінскага раёну.

У Рагачоўскім і Жлобінскім раёнах, Бабруйскае акругі калектывізацыя праходзіць з вялікім посьпехам. 14 сельскіх саветаў у гэтых раёнах перайшлі на масавую калектывізацыю.

За адзін толькі кастрычнік пад калгасамі ўжо ахоплена плошча ў 45.000 гектараў зямлі.

Да пачатку вясеньняй пасеўнай кампаніі гэтыя раёны будуць калектывізаваны на ўсе 100 проц.

### Ліквідацыя прышчэпаўшчыны.

На працягу палявога земляўпарадчага пэрыяду 1928-29 гаспадарчага году ішла ліквідацыя прышчэпаўскай спадчыны самым узмоцненым тэмпам.

За мінулае лета, па няпоўных зьвестках, у калгасы ўвайшло звыш 5.000 бядняцка-серадняцкіх хутарскіх гаспадарак.

Даманавіцкі сельсавет (Мазырскае акругі), які калектывізаваны на ўсе 100 проц.—у значнай частцы складаўся з сталыпінска-прышчэпаўскіх хутарскіх гаспадарак. Пракісельскі буйны калгас (Гомельскай акругі) зарганізаваўся з бядняцка-серадняцкіх хутароў і аб'ядная плошчу звыш 1.500 гектараў.

### Тэмпы суцэльнай калектывізацыі на Беларусі.

ЦК КП(б)Б пастанавіў вылучыць для суцэльнай калектывізацыі ўсю *Магілеўскую* акругу і 15 наступных раёнаў: *Рагачоўскі* і *Жлобінскі* (Бабруйскай акругі), *Лоеўскі, Хойніцкі, Калінкавіцкі* (Гомельскай акругі), *Лядзянскі, Круглянскі* і *Расьнянскі* (Аршанскай акругі), *Юравіцкі* (Мазырскай акругі), *Сіроцінскі, Гарадоцкі* і *Сененскі* (Віцебскай акругі), *Сьмілавіцкі* і *Капыльскі* (Менскае акругі) і *Ветрынскі* (Полацкай акругі).



Каровы прышлі з пашы,—зараз пачнецца дойка. Калгас „РАСЬСЬВЕТ-ПАБЯДЗІЦЕЛЬ-Майскае".

Магілеўская акруга павінна быць цалкам калектывізавана да канца 1930 г. Усе 15 раёнаў суцэльнай калектывізацыі—да пачатку веснавой пасеўнай кампаніі 1930 году.

Усім цэнтральным арганізацыям і ўстановам прапанавана аказваць сыстэматычную дапамогу мясцовым арганізацыям па калектывізацыі гэтых раёнаў.

### Першыя 2 аграіндустрыяльныя калгасы-камбінаты.

Дзяржплян распрацаваў праект арганізацыі ў 1929-30 годзе на Беларусі 2 узорных агра-індустрыяльных калгасаў-камбінатаў.

Адзін калгас-камбінат павінен мець бульбяна-жывёлагадоўчы ўхіл, а другі—ільна-малочны.

Арганізацыя бульбяна-жывёлагадоўчага аграіндустрыяльнага калгасу-камбінату мяркуецца ў Рагачоўска-Жлобінскім раёне, Бабруйскае акругі, а арганізацыя ільна-малочнага калгасу-камбінату — у Ляднянска-Дубровенскім раёне, Аршанскае акругі.

Праекты аграіндустрыяльных калгасаў-камбінатаў унесены Дзяржплянам на зацьверджаньне Савету Народных Камісараў БССР.

### Арганізацыя буйных вузка-спэцыялізаваных калгасаў.

З вясны 1930 году мяркуецца прыступіць да арганізацыі на Беларусі шэрагу вузка-спэцыялізаваных буйных калгасаў, у тым ліку— 100 бульбяна-жывёлаводных калгасаў, 25 сьвінаводных, 15 садовых, 10 малочна-гародных і 5 ільняных.

У буйных ільнаводных калгасах плошча пасеву ільну павінна займаць ня менш 25 проц. усяе пасеўнае плошчы гэтых калгасаў.

Буйныя малочна-гародныя калгасы павінна мець ня менш 100 гектараў гароду і 500 галоў малочных кароў—кожны.

Кожная буйная садовая калектыўная гаспадарка будзе мець звыш 100 гектараў саду.

Буйныя сьвінаводныя калгасы будуць мець бэконныя множнікі з колькасьцю матак звыш 100 галоў кожны.

### Калектывізацыя за межамі БССР.

У 1929-30 годзе будзе праведзена суцэльная калектывізацыя *Рэспублікі немцаў Паваложжа.* На 1-е лістапада ў рэспубліцы калгасамі ахоплены 60 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Некаторыя кантоны, як, напрыклад, Каменскі—калектывізаваны поўнасьцю.

У гэтым годзе на *Паўночным Каўказе* арганізуецца 150 буйных калгасаў-волатаў на агульнай плошчы ў 1 мільён 270 тысяч гектараў. У наступным годзе праводзіцца суцэльная калектывізацыя мінэралаводзкага, Паўночна-Асяцінскага і Ейскага раёнаў на плошчы каля 200.000 *га.*

У *Ніжня-Волскім краі*—праводзіцца суцэльная калектывізацыя Пугачоўскай акругі. Ужо калектывізавана 60 проц. усіх гаспадарак. Гэта—трэцяя акруга ў краі, перашоўшая на суцэльную калектывізацыю.

У Талаўскім раёне *Цэнтральнай Чарназёмнай Обласьці* заканчваецца суцэльная калектывізацыя (90 проц.). У раёне створана 6 буйных калгасаў з плошчай ад 20 да 25 тысяч гектараў кожны.

У *Джанкойскім* раёне (Крым)—перайшло на суцэльную калектывізацыю 13 паселішчных пунктаў. Абагулены пасевы, сенажаці, сады і гароды па плошчы звыш 10.000 *га*, а таксама жывы і мёртвы інвэнтар.

У *Пскоўскай* акрузе (Ленінградзкай обласьці) арганізуеца ўсесаюзны ільназапаведнік. Усе раёны ільназапаведніка абвешчаны раёнамі суцэльнай калектывізацыі: там арганізуецца 3 машына-трактарныя станцыі з 150 трактарамі. Частка трактароў ужо атрымана. Пачалася пабудова 4 новых ільнаапрацовачных заводаў і 3-х мэханізаваных сырамаслазаводаў.

На 1 лістапада 20 сельсаветаў з 30—*Шатроўскага раёну*, Цюменьскае акругі (Урал) аб'ядналіся ў калгасы. Раён пераходзіць на суцэльную калектывізацыю. Ужо калектывізавана 7.000 сялянскіх двароў—85 проц. усіх гаспадарак раёну. Гэта ўжо пяты раён суцэльнай калектывізацыі на Урале.

Колькасьць калгасаў па Савецкаму Саюзу ў 1928-29 годзе ў параўнаньні з мінулым 1927-28 г. падвоілася і дайшла да 60.000.

Калектывізацыя сельскае гаспадаркі расьце і ўзмацняецца на новай тэхнічнай падставе, ствараемай індустрыялізацыяй; паміж горадам і вёскай ствараецца сталёвая машынная сувязь.

# ГРАМАДЗКАЯ ДАПАМОГА КАЛГАСАМ

## Суботнік у калгасе „Чырвоны Маяк“.

*(Грэскі раён, Менскай акругі).*

Да гэтага году ў Грэскім раёне ня было ні аднаго добрага калгасу. Былі калгасы па 2-3 сям'і, большая частка з якіх мелі ў вёсцы і сваю ўласную гаспадарку. Нават было такое зьявішча, што да гэтага году жыла б. абшарніца ў сваім двараэ, якая ўвесь час эксплёатавала беднякоў. У гэтым годзе становішча зьмянілася. У вёсках раёну праводзілася земляўпарадкаваньне (Дзюдзява, Хрыкава і Шумякі). Пасьля якога ў гэтым двараэ арганізаваны калгас „Чырвоны Маяк“ на плошчы 1.200 *га*. У калгас увайшлі батракі і беднякі ў ліку 40 сяброў. Бязумоўна гэты лік недастатковы на такую плошчу зямлі, але новых з-за адсутнасьці будынкаў прымаць нельга, бо ім няма дзе жыць. Калгас мае толькі 10 коняй і таму апрацаваць усю плошчу зямлі ня было магчымасьці. Раённая партыйная арганізацыя прышла на дапамогу і пастанавіла: зрабіць суботнік для зяблевага ворыва ў калгасе. У вызначаны дзень, 19 кастрычніка, а 6 гадзіне раніцы на працу па дапамозе „Чырвонаму Маяку“ зьявіліся ўсе партыйцы, камсамольцы і рабочыя навакольных саўгасаў. Першымі зьявіліся саўгасаўцы з коньмі і трактарам. Пад кіраўніцтвам райжанарганізатара прышло 32 жанчыны дапамагаць садзіць новы сад і прыбіраць стары. Усяго было ў рабоце 32 плугі, з іх 18 двухсашнікавых і адзін трактар. Коняй было на працы 80 шт. За дзень узаралі 42 *га*, засадзілі саду 4 *га* і прыбралі стары—выкарчавалі сухія дрэвы і на іх месцы пасадзілі новыя. Дапамагалі прыбраць гародніну і шмат іншай працы. Усяго ў гэты дзень працавала 123 чалавекі, апрача сваіх калгасьнікаў, музыкантаў і машыністкі, якая працавала па выпуску насьценнай газэты. У вечары праведзена таксама і вусная газэта. Працавалі ўсе сумесна, з энтузіязмам і добрым настроем. Вельмі прыемнае было ўражаньне ад работы арганізаванай грамады. Увечары адбыўся мітынг, дзе выступілі старшыня калгасу, сакратар райкому партыі, загадчык райземчасткі і інш. Стварылася ўпэўненасьць, што ўсе цяжкасьці, якія стаяць перад савецкай уладай у справе калектывізацыі, будуць пераможаны.

Праца Грэскай партыйнай арганізацыі, як мэтад дапамогі калгасам, вельмі карысная як для калгасу, так і для грамадзкасьці.

Усім раёнам патрэбна скарыстаць гэты прыклад у сваёй працы.

Інструктар акркалгассаюзу **Ф. Зянькевіч.**





Малацьба ў калгасе „Расьсвет-Пабядзіцель“.

# ПРАПАНОВЫ З МЕСЦ

## Калгасы і школа.

Я хачу спыніцца на той вялікай ролі школы, якую яна можа прарабіць у калектывізацыі вёскі і галоўным чынам, на ўсёй школе сумесна з вучнямі і настаўнікам.

Што датычыцца настаўніка, дык ён дапамагаў і дапамагае калектывізацыі вёскі партыйным савецкім арганізацыям, праводзячы растлумачальную кампанію сярод насельніцтва, а таксама і сам становіцца членам камуны або калгасу.

Але школа ў поўным сэнсе гэтага слова пакуль што яшчэ ня ўцягнута ў гэтую важную працу. Школа, хата-чытальня павінна дапама-



Экскурсія 3-яй Савецкай школы, Шклоўскага раёну, у яўрэйскі калгас „Іскра“.

гаць руйнаваць стары быт у калгасах, уводзячы замест яго—новы. Бо, трэба шчыра прызнацца, стары быт яшчэ захоўваецца ў некаторых камунах і калгасах.

Кожнаму вядома, што насельніцтва арганізаваных камун і калгасаў аб'яднаецца з усімі бытавымі звычаямі. Для таго, каб зьнішчыць тое, што ўкаранілася стагодзьдзем, патрабуецца доўгая, упартая сыстэматычная праца. Возьмем для прыкладу рэлігійнасьць. У арганізаваных калгасах можна ўбачыць тыя самыя вобразы розных сьвятых, можна заўважыць сьвяткаваньне рэлігійных сьвят.

Праўда, часта вобразы (іконы) гэтыя ня вісяць у кутку, як гэта было ў кожнага асобна, а знаходзяцца або на ложку, або на стале.

Ды яно інакш і быць ня можа, пакуль школа, хата-чытальня і ўся культурная, перадавая частка, актыў калгасаў і вясковы не дапаможа праўленьню зруйнаваць гэтага ўкаранелага ворага.

Адчыненьне і належнае абсталяваньне антырэлігійных куткоў, арганізацыя ячэек бязбожніка, антырэлігійных вечароў, ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў калгасах—гэта адна з галоўнейшых задач у сучасны момант, школы, хаты-чытальні і наогул культасьветных устаноў на вёсцы. Групавая чытка газэт, журналаў павінна сыстэматычна праводзіцца ў камунах і калгасах.

Павінна быць самая цесная сувязь школы, хаты-чытальні з калгасамі, шляхам экскурсіі, перапіскі і г. д. Вучні, якія пабудуць у камуне, калгасе практычна азнаёмяцца з жыцьцём камуны, убачаць яе дасягненьні і выгаднасьць у параўнаньні з індывідуальнай бацькавай гаспадаркай, зьявяцца лепшымі памоцнікамі ў правядзеньні мерапрыемстваў камуністычнай партыі і савецкай улады ў жыцьцё.

Яны дапамогуць нашаму актыву на вёсцы праводзіць атаку на кулакоў, якія стараюцца шкодзіць рабоце і пускаюць розныя плёткі пра камуны і калгасы. Прышоўшы дамоў, вучань з захапленьнем раскажа ўсё тое, што бачыў у калгасе і ня дасьць бацьку, або матцы паўтараць хлусьню, пушчаную кулаком, і гэтым будзе дапамагаць калектывізацыі. Настаўнікі, распрацоўваючы гадовыя вытворчыя пляны школ, павінны ўключыць у іх і плян працы ў тым ці іншым калгасе, які знаходзіцца ў бліжэйшым сельсавеце або раёне. Культшэфства над калгасамі павінны ўзяць школы, уключаючы працу ў калгасе ў свае гадовыя пляны.

Праграмны матар'ял павінен запаўняцца статыстычным і практычным матар'ялам дзейнасьці камун і калгасаў.

*Сацыялістычнае спаборніцтва за лепшае культурнае абслугоўваньне калгасаў, камун павінна заняць пачэснае месца ў працы школ.*

Г. Шумілаў.

г. Шклоў. РВК.

---

# Трэба ўтварыць таварыскія суды ў калгасах.

Хаця калгасьнікі самы актыўны і перадавы пласт сялянства, але кожны з іх нясе з сабой у калгас свае старыя якасьці і нахілы ў якіх ён рос і выхоўваўся. Таму ў калгасе часамі можна бачыць розныя недарэчнасьці, як, напрыклад: напіўшыся калгасьнік выцяў свайго таварыша, пабіў жонку, другі гужы прадаў у вёску, а трэці ня вышаў на працу бяз уважлівых прычын.

Калі кожную такую жыцьцёвую дробязь ставіць на народныя суды, то іх так загрузяць, што ад гэтага будзе толькі страта для дзяржавы, а таксама і для гаспадаркі, бо на суд часам трэба ехаць за якіх-небудзь 25—35 *км* на адзін—два дні. І, як вядзецца па „звычаю", абавязкова павінны быць па 3—4 сьведкі з абодвых бакоў, значыць затрачана чэцьвера коняй.

Вось чаму ў кожным калгасе павінен быць таварыскі суд, абраны на агульным сходзе, які-б разглядаў справы: аб зладзействе, няўважлівых адносінах да інвэнтара, нявыхад на працу без уважлівых прычын, справы аб зьняважаньні і г. д.

Кожная справа ў таварыскім судзе павінна разглядацца ў непрацоўны час, сочачы за тым, каб доўга не затрымліваліся паданыя заявы.

Аб мерах накладваемага таварыскім судом пакараньня і наогул аб гэтым пытаньні трэба пагаварыць на старонках часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“.

**Алесь Дымкоў.**

---

# Аб рахункаводах для калгасаў.

У сучасны момант, калі з кожным днём арганізуюцца ўсё новыя і новыя калгасы, побач з падрыхтоўкай кіраўнічых кадраў калгасаў, трэба паставіць пытаньне аб падрыхтоўцы рахунковых працаўнікоў для калгасаў.

Правільнае-ж вядзеньне рахункаводзтва для тых калгасаў, дзе складаныя ўзаемаадносіны паміж членаў калгасаў і самым калгасам (і, напрыклад, аплата працы па вырабу і якасьці), вельмі патрэбна.

Працуючы ў калгасах 4 гады я ведаю з практыкі, што інструктары калгассаюзу па рахункаводзтву амаль нічога ня ведаюць. У кожным калгасе ёсьць дастаткова пісьменныя сябры, якія і вядуць рахункаводзтва. Але весьці рахункаводзтва так, каб сапраўды адлюстравалася становішча гаспадаркі, яны ня могуць. Бо, як вядома, рахункаводзтва справа досыць складаная, а паказаньняў як яе весьці ні хто не дае. Я лічу, што неабходна ўжо ў гэтым годзе арганізаваць коратка-тэрміновыя акруговыя курсы па перападрыхтоўцы рахункаводаў для калгасу. Або, калі курсы арганізаваць нельга, дык стварыць сталыя хоць-бы завочныя курсы па с.-г. рахункаводзтву.

Далей, аб формах справаздачнасьці калгасаў. З кожным годам формы справаздачы мяняюцца. Пара ўжо мець сталыя формы рахункаводзтва.

У калгассаюзах трэба мець інструктара-рахункавода, які-б раз ці два разы ў год правяраў становішча рахункаводзтва ў калгасах.

Лічу патрэбным адчыніць у часопісу „Шляхі каляктывізацыі“ аддзел „Парады рахункаводу-калгасьніку“. Праз гэты аддзел рахункавод калгасу атрымае адказы на тыя пытаньні, якіх сам вырашыць ня можа.

**А. Шульман.**

Камуна 1-ая Мая. Менск. акр.



# Аб пастаноўцы працы па рацыяналізацыі ў калгасах і саўгасах.

Для пасьпяховага выкананьня пяцігадовага пляну ў галіне сельскай гаспадаркі—неабходна самае ашчаднае выдаткаваньне вызначаных па пляну сродкаў. Рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, з поўным ужываньнем электрыфікацыі і мэханізацыі, патрабуе рацыянальнага выкарыстоўваньня ўсіх сродкаў вытворчасьці, што паменшыць сабекошт прадуктаў і дасьць найбольшы эфэкт працы. Ня гледзячы на гэта, у галіне сельскай гаспадаркі як па лініі Белсельтрэсту, так і Калгассаюзу не вядзецца ніякай работы па рацыяналізацыі і нарміраваньні працы.

Для зьнішчэньня гэтых недахопаў у далейшым, Наркамземам Беларусі (абежнікам за № 23677, ад 16-Х-29 г.) прапанована Белсельтрэсту і Калгассаюзу тэрмінова прапрацаваць пытаньне аб далейшай пастаноўцы работы па рацыяналізацыі і, па ўзгадненьню з НК РСІ, вылучыць адпаведных спэцыялістых, якія-б займаліся рацыяналізатарскай справай у галіне сельскай гаспадаркі. Неабходна каб асобы, якія будуць займацца рацыяналізацыяй трымалі цесную сувязь з групай па рацыяналізацыі РСІ і НКЗ і з вытворчымі нарадамі саўгасаў і калгасаў, дапамагаючы апошнім у працы і наглядаючы за сваячасовым выкананьнем іх прапаноў.

Па лініі Калгассаюзу пажадана, каб былі вылучаны асобы, нават і ў Акркалгассаюзах па справе рацыяналізацыі, калі не спэцыяльныя штатныя адзінкі, дык па сумяшчэньню.

Па нашай думцы—Белсельтрэст і Калгассаюз павінны ў першую чаргу заняцца пытаньнямі: устанаўленьня адзіных норм для работнікаў у галіне сельскай гаспадаркі і вытворчасьці, якія да гэтага часу адсутнічалі, рацыянальнага выкарыстоўваньня машын, рухавікоў і інш.

Па колькі праца, як па лініі Белсельтрэсту, так і Калгассаюзаў па рацыяналізацыі сельскай гаспадаркі, у сваёй большасьці, можа насіць аднолькавы характар, дык пажадана, каб паміж рацыяналізатарамі была наладжана цесная сувязь па абмену вопытам у рабоце і дасягненьнях.

Рацыяналізатарам Белсельтрэсту і Калгассаюзу патрэбна таксама трымаць цесную сувязь з рацыяналізатарскай групай НКЗБ, якая акажа ім дапамогу па ўсіх пытаньнях, якія прапрацоўваюцца. Рацыяналізатары павінны згуртаваць вакол сябе ўсіх вынаходцаў у галіне сельскай гаспадаркі і аказваць ім дапамогу ў працы па ўдасканаленьню вынаходзтва.

Праўленьні Белсельтрэсту і Белкалгассаюзу павінны зрабіць рашучы пералом у гэтым напрамку. Неабходна справу рацыяналізацыі паставіць на патрэбную вышыню, яна заўсёды сябе акупіць.

**Валахановіч.**

# БУДАЎНІЦТВА САЎГАСАЎ У БССР

## Роля саўгасаў у сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі.

Савецкія гаспадаркі ўвайшлі ў новую эпоху свайго разьвіцьця. Яшчэ зусім нядаўна, да 1928 г. цалкам ці часткова ліквідаваліся некаторыя саўгасы. Да гэтага-ж часу зямельныя органы вельмі слаба дапамагалі іх разьвіцьцю. Складзеная ў 1928 г. пяцігодка будаўніцтва саўгасаў яскрава сьведчыць аб недаацэнцы саўгасаў, аб слабых тэмпах іх разьвіцьця. Права-апартуністычнае недавер'е ў росквіт саўгасаў і калгасаў на Беларусі адбілася тут відавочней, чымся ва ўсякіх іншых пунктах барацьбы правых з генэральнай лініяй партыі. 12 гадавіну

Менская акруговая канфэрэнцыя ўдарных брыгад.



Група ўдзельнікаў канфэрэнцыі саўгасаў і калгасаў абменьваецца вопытам і дзеліцца сваімі дасягненьнямі ў сац. будаўніцтве.

Кастрычнікавае Рэвалюцыі саўгасы сустракалі са значнымі посьпехамі, з новымі пэрспэктывамі і тэмпамі свайго разьвіцьця. Ужо ў 1929-30 г. замест скарачэньня плошча пад саўгасамі з 97.000 гектараў павінна быць даведзена, за рахунак арганізацыі новых саўгасаў на балотах, лубінавых на мінэральных глебах, узбуйненьня старых, да 150.000 гектараў. Адначасова будзе праводзіцца далейшая спэцыялізацыя саўгасаў па лініі арганізацыі малочных фэрмаў, ільняных гаспадарак,

садова-гародных баз, індустрыялізацыі саўгасаў, рашучага ўздыму вытворчасьці ўсіх галін саўгаскіх гаспадарак.

*Змаганьне за сапраўды буйныя, мэханізаваныя, індустрыялізаваныя, з высокай вытворчасьцю і якасьцю ўсіх галін працы, саўгасы, з нізкім сабекоштам прадукцыі—ёсьць змаганьне за больш шпаркія тэмпы аграмаджваньня і ўздыму вытворчасьці ўсяе сельскае гаспадаркі.*

Абсолютна недапушчальна, нецярпіма і сёньня, але ўжо па другому поваду, разважаюць асобныя зямельныя „майстры“, аб тым, што „ў час масавай калектывізацыі сваю ролю саўгасы ўжо адыгралі—што ўсю ўвагу трэба аддаць руху калектывізацыі“. Наадварот, у час абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы, калі кулак паставіў на карту змаганьня з генэральнай лініяй партыі, усе сродкі барацьбы: тэрор, хлусьню, подкуп, і калі ня гледзячы на гэта адбываецца шырачайшы рух бядняцка-серадняцкіх мас за калгасы,—як ніколі гостра стаіць запатрабаваньне да саўгасаў не на словах, а на справе быць асяродкам сацыялістычнага ператварэньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у буйныя калектыўныя гіганты, іх вытворчага каапэраваньня і ўздыму вытворчасьці. Згуртаваныя, яны зьявяцца перадавой пралетарскай арміяй змаганьня з кулацтвам на вёсцы.

Для актыўнага і поўнага выкананьня сваёй адказьнейшай ролі і дапамогі сацыялістычнай пераробцы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, саўгасы павінны ў першую чаргу забясьпечыць новыя тэмпы свае працы—выканаць усе задачы ўскладзеныя на іх партыяй і ўрадам,—вызваліцца ад шэрагу дробных і буйных недахопаў.

А побач з дасягненьнямі, ёсьць шмат недахопаў. Выключна нізкая ўкамплектаванасьць жывёлай і нізкая яе прадукцыйнасьць. Ня ўсе яшчэ ўсьвядомілі, што за гэта зьвяно трэба ўхапіцца з усёй сілай. Абсолютна нездавальняючае забясьпечаньне моцнымі кармамі. Дрэнна яшчэ вырашана пытаньне з кормаздабываньнем і доглядам за жывёлай. Пры значным уздыме ўраджайнасьці, у саўгасах яшчэ вельмі нізкія ўраджаі.

Ня зусім добра, а ў шэрагу саўгасаў і вельмі дрэнна вырашана задача палепшаньня працы тэхнічных прадпрыемстваў, поўнай іх загрузкі сыравінай. Асабліва дрэнна ідзе прыцягненьне малака на сырмаслазаводы саўгасаў. Малочная каапэрацыя, наўпрок партыйных і савецкіх дырэктыў, яшчэ не забясьпечвае нават каапэраваных здатчыкаў малака моцнымі кармамі нараўне з здатчыкамі ў каапэрацыю, і такім чынам не стымулюе большай разгрузкі дзяржаўных сырмасла-заводаў. Дырэктывы трэсту аб пераводзе крухмалянь на непарыўную вытворчасьць выкананы ня ўсімі.

Дасягненьні саўгасу „Натальеўск“, які ў выніку спаборніцтва, па шэрагу прац павялічыў фактычную выпрацоўку да 70 проц., сьведчыць ня толькі аб дасягненьнях, але і аб буйнейшых недахопах, якія ёсьць у гэтай галіне. Важнейшае мерапрыемства ўздыму вытворчасьці працы—зьдзельшчына яшчэ і да гэтай пары сабатуецца асобнымі кіраўнікамі і рабочымі камітэтамі.

Нікуды ня варта яшчэ справа з мэханізацыяй с.-г. вытворчасьці саўгасаў. Замест мінімальна патрэбных саўгасам на 1929-30 г. 227 трактароў, адпушчаецца ледзь 84 шт. Гэтая колькасьць абсолютна *не задавальняе* патрэб саўгасаў, як не задавальняе і водпуск прычэпнага інвэнтару да іх.

Сацыялістычнае спаборніцтва шырока разгарнулася, але яно яшчэ не зьявілася сталым мэтадам работы. У практыцы яго правядзеньня ёсьць шэраг буйнейшых недахопаў. Саўгасы недапушчальна дрэнна

да гэтай пары рыхтуюцца да Ўсебеларускай выстаўкі. Гэта праца яшчэ не пераведзена на рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва. Дапамога калгасам і бядняцка-серадняцкім масам вёсак у гэтай адказьнейшай справе зусім недастаткова.

Самаправерка ўсёй працы, рашучая крытыка і самакрытыка, мэтад адзінства кіраўніцтва, злучаны з сапраўдным кантролем рабочых, сацыялістычнае спаборніцтва, як мэтад штодзеннай работы,—даюць пэўную гарантыю забясьпечаньня поўнага ажыцьцяўленьня задач, якія стаяць перад саўгасамі. Трэба рашуча зьнішчыць недахопы і забясь-

**Менская акруговая канфэрэнцыя ўдарных брыгад.**



Дэлегаты канфэрэнцыі ўдарных брыгад саўгасаў „Леніна", Смалявіцкага раёну і „Натальеўск (у сярэдзіне), Чэрвенскага раёну падсумоўваюць вынікі дасягненьняў у сац. спаборніцтве.

печыць выкананьне ролі саўгасаў па сацыяльнай і тэхнічнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Зьвесткі аб агравытворчай дапамозе за апошні год, хаця яшчэ і ня поўныя, сьведчаць аб значным зруху ў гэтай справе. У пяршыню канкрэтна пастаўленая перад саўгасамі задача, быць непасрэднымі арганізатарамі аграмаджаньня сельскае гаспадаркі, дае арганізацыю 59 калектыўных і вытворча-каапэрацыйных аб'яднаньняў за год. Гэтаму садзейнічала арганізаванае шэфства рабочых калектываў над асобнымі вёскамі і пасёлкамі і сацыялістычнае спаборніцтва. Саўгасы перадалі, у парадку продажу і абмену, 3930 тон гатункавага і палепшанага насеньня. Ачысьцілі, па няпоўных зьвестках, 22982 тоны калгаснага і сялянскага насеньня. Адрамантавалі 6426 машын, пакрыта вытворнікамі саўгасаў 14392 маткі рознай жывёлы. Перадалі 1253 шт. маладняку. Узаралі і засеялі беднякам 2311 гект. Зрабілі ў часе сельска-гаспадарчых кампаній—1690 дакладаў па розных пытаньнях на сялянскіх сходах.

Гэтыя лічбы пакідаюць далёка ззаду тэмпы і зьмест працы мінулых гадоў. Але трэба прызнаць, што ў гэтай важнейшай частцы працы ёсьць буйнейшыя недахопы, невыкарыстаны ўсе мажлівасьці, ёсьць недапушчальныя клясавыя парушаньні ў напрамку агравытворчай дапамогі. Роля савецкіх гаспадарак як пралетарскіх асяродкаў ажыцьцяўляецца абсолютна недастаткова. Саўгасы зусім слаба зьяўляюцца арганізатарамі сацыялістычнага спаборніцтва на вёсцы. Самым асноўным недахопам у гэтай галіне зьяўляецца яшчэ зусім недастатковая праца ў галіне калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня сельскае гаспадаркі. Уся гэта рэальная агравытворчая дапамога павінна праводзіцца на самаакупаемасьці, праз фонды кампэнсацыі, пры непасрэдных умовах калгасаў з бядняцка-серадняцкім сялянствам,—за выключэньнем прац, якія праводзяцца ў парадку шэфства дапамогі беднаце. Сельска-гаспадарчая кампанія 1930 г. павінна даць яшчэ больш пашыраную праграму дапамогі па ўсіх мерапрыемствах.

У 1929-30 годзе трэба выканаць як мінімальную задачу арганізацыі ня менш аднаго калгасу ці вытворчага каапэрацыйнага аб'яднаньня на саўгас. Пралетарскія асяродкі на вёсцы – саўгасы павінны выканаць сваю задачу і рашуча ўзмацніць свой удзел у арганізацыі новых, у ўзбуйненьні і палепшаньні працы існуючых. Наступны год дазволіць перадаць да 6250 тон гатунковага і палепшанага насеньня, што будзе больш шырока памагаць узьняць ураджайнасьць і вытворчасьць другіх галін калгасаў і вытворча-каапэраваных аб'яднаньняў. Задача ачысьціць к вясьне 25.000 тон калгаснага і сялянскага насеньня, патрабуе безадкладнай актыўнай работы па распрацоўцы пляну, падрыхтоўцы людзей, машын, арганізацыі абозаў і практычнага пачатку работы. Саўгаскімі вытворнікамі ў кампанію 1930 г. павінна быць пакрыта да 20.000 матак рознай жывёлы. Патрэбна правесьці кампанію па рамонту с.-г. машын; адрамантаваць неабходна ня менш 10.000 машын; далей арганізацыя разам з КСУ розных т-ваў па карыстаньню на дагаворных пачатках машынамі саўгасаў, дапамога беднаце павінна быць своечасова і поўна выканана. Зараз ёсьць яшчэ час унікнуць расійскай прыказкі „тады сабак карміць, калі на паляваньне ісьці". Патрэбна заснаваньне агравытворчага шэфства рабочых саўгасу над асобнымі вёскамі, пасёлкамі і вывядзеньне яго шмат у якіх мясцох з фармальнага папяровага становішча. Праз шэфства трэба паскорыць аграмаджаньне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Павялічыць іх вытворчасьць і палепшыць палітычна-выхаваўчую працу на вёсцы. Саўгасы павінны актыўна дапамагчы калгасам арганізаваць іх гаспадаркі, працу, перадаць вопыт працы вытворчых нарад, меры ўздыму ўраджайнасьці, вылучаючы з складу рабочых кіраўнікоў быўшых гігантаў калгасаў. Дапамагчы партыйным і савецкім органам правесьці шырачэзную масавую працу па падрыхтоўцы бядняцка-серадняцкіх мас к поўнаму выкананьню задач вясеньнай сельска-гаспадарчай кампаніі—абавязак саўгасаў. Трэба шырэй, чым у мінулыя гады прыцягнуць на арганізуемыя курсы і ўцягнуць ва ўсю культмасавую працу ваколічнае батрацтва і бядняцка-серадняцкія масы. Пралетары саўгасаў павінны дапамагчы ў працы групам беднаты—дапамагчы рашучаму наступу на кулака па ўсім лініям будаўніцтва.

Выкідваючы з уласнай практыкі ў сацыялістычным спаборніцтве ўсе недахопы і зрабіўшы яго мэтадам штодзеннай працы,—трэба актыўней дапамагчы разгортваньню сацыялістычнага спаборніцтва на вёсцы так, каб усе саўгасы, калгасы, вытворча-каапэрацыйныя аб'яднаньні, бядняцка-серадняцкія масы вёсак і пасёлкаў, цэлых с.-с. і раёнаў былі актыўнымі ўдзельнікамі спаборніцтва і праз яго паўней

вырашылі задачы другога году пяцігодкі. Трэба з асаблівай рашучасьцю і безадкладна стаць у першыя шэрагі барацьбітоў за больш шырокую калектывізацыю сельскае гаспадаркі, за больш шырокае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва. Уся агравытворчая дапамога павінна быць больш пранізана клясавым зьместам—рашучай барацьбой з кулацтвам, каб уся праца садзейнічала аграмаджваньню с.-гаспадаркі.

Самаахвярна, рашуча разгортваючы разьвіцьцё старых і арганізацыю новых, індустрыялізіруючы, мэханізіруючы іх, па-новаму ўздымаючы вытворчасьць усіх галін—саўгасы павінны стаць, і стануць асяродкамі сацыяльнай і тэхнічнай перабудовы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак—актыўнымі пралетарскімі атрадамі барацьбы з кулацтвам на ўсіх фронтах.

**Т. Аўчыньнікаў.**

---




У цёплы летні вечар частыя стрэлы заміралі ў зялёных прысадах а ўначы, за чорнаю сьцяною лесу, трывожна палымнела на захадзе неба. Пад грукат гарматаў і частыя абстрэлы партызанскіх атрадаў каціліся на захад хвалі белапольскай навалы. Абшарнікі ўцякалі, забіраючы з сабою ўсё, што толькі можна і руйнуючы тое, чаго нельга было забраць з сабою. Праз разьбітыя шыбы вецер гуляе па панскіх пакоях. Пустуюць аборы. Вайна. Голад. 20-ты год.

* * *

У стайнях—55 коняй. У аборах—120 дойных кароў, маладняку 82 штукі, 4 быкі-вытворнікі, 11 сьвіней (ёркшыраў), 3 кныры і 26 шт. маладняку—у сьвінарніку.

На палёх весела завіхаецца трактар.

Сілаю нафтавага дызэля (36 конскіх сіл) працуюць млын, крупадзерка, пільня.

На сыраварным заводзе—навейшае замежнае абсталяваньне. Яго прадукты прызнаны першагатунковымі на 1-ай, 2-ой Усебеларускіх выстаўках малочнае гаспадаркі.

А неўзабаве і яркае сьвятло панясе ў цёмныя куткі, сьціснутых балотамі вёсак,—*электрастанцыя*.

У былых панскіх пакоях—клюб рабочых, куток Леніна, школа. Над пакоямі чырвоны сьцяг на мачце радыёпрыёмніка. Год 29-ты.

I

Шырокімі абрусамі, на плошчы ў 1203 гэктары [1]) сярод вузкіх істужак сялянскіх палос, раскінуліся палеткі буйнае гаспадаркі Лапухі-Старыца.

Цяжка было на разбуранай гаспадарцы, без машын і без жывёлы. Але моцная была воля рабочых; узьняць заняпалую *сваю* гаспадарку. І ўзьнялі.

З вялікімі цяжкасьцямі, паступова і няўхільна вырастала з руінаў гаспадарка. Кожны год жыцьця гаспадаркі быў годам буйнага росту. З 1924 году гаспадарка дае прыбытак, які ўжо ў 1926 годзе дасягае 15324 руб.



Падрыхтоўка садавіны да экспарту ў саўгасе Лапухі-Старыца.

Працоўны дзень у саўгасе—васьмігадзінны, але вытворчасьць працы значна вышэйшая, чымся ў ваколічных сялян. Дапамагае машына і сьвядомыя адносіны рабочых да працы.

На ўзьняцьці вытворчасьці працы значна адбілася ўвядзеньне зьдзельшчыны. Па шмат якіх працах мелася значнае перавыкананьне норм выпрацоўкі. Нормы ўстаноўлены рабочымі для васьмігадзіннага дню наступныя:

1) Узорваньне 2-х лямешным плугам 1,05 *га* глебы сярэдняй вязкасьці.
2) Баранаваньне ў 1 сьлед бараною „зіг-заг"—4,98 *га*.
3) Дыскаваньне 12-дысковай бараной—3 *га*.
4) Пружынаваньне 9-зубовай бараной—1,5 *га*.
5) Апрацоўка культыватарам 9-зубовым—2 *га*.
6) Пасеў радавым сяўнікам (25 сашнікоў)—4 *га*.
7) „ раскідным сяўнікам—8 *га*.
8) Касьба касілкай—3,5 *га*.
9) Жніво жняяркай самаскідкай яравых—3,76 *га*.
10) „ „ „ азімых—3,5 *га* і г. д.

Забясьпечанасьць гаспадаркі машынамі і прыладамі паляпшаецца з кожным годам.

---

[1]) Пахаці ў саўгасе—604,1 *га*, сенажаці сухадольнае—128,92 *га*, балотнае—109,01 *га*, пад лесам—299,69 *га*, саду і агароду каля 10 *га*, рэшта пад сядзібамі, выганамі і г. д.

Увесь няжывы інвэнтар саўгасу (машыны, прылады, сродкі транспарту, абсталяваньне) у 1926 годзе каштаваў 25.235 р. 62 к., у 1927 г. 41.753 р. 29 к., а ў 1928 г.—57.847 р. 7 кап.



Нафтавы дызэль саўгасу Лапухі-Старыца (36 конскіх сіл) прыводзіць у рух млын, крупадзёрку і пільню.



Завод па пераапрацоўцы малочных прадуктаў саўгасу Лапухі-Старыца.

2 кузьні і стальмашня поўнасьцю абслугоўваюць гаспадарку. Горш з будынкамі. Адчуваецца цесната, асабліва ў Старыцы, дзе сканцэнтраваны тэхнічныя прадпрыемствы. У зьвязку з гэтым мяркуецца пабудаваць у Старыцы новы дом пад кватэры рабочым. Кватэры, якія засталіся ад паноў, без падлогі з працякаючай стольлю, мала адпавядалі свайму прызначэньню. Цяпер 11 будынкаў перакрыты гонтаю, у 14 кватэрах паложаны падлогі. Жыльлёвыя ўмовы значна палепшыліся.

У 1926 годзе рамонт каштаваў каля 5 тысяч рублёў, у 1927 годзе 9960 руб., а за апошнія паўтары гады рамонт абышоўся ў 36.860 р. 59 к.

II.

Пры дзевяціпольным севазвароце скарыстоўваецца ўся ворная зямля. Культуры чаргуюцца наступныя: 1) папар, 2) жыта, 3) бульба, 4) ярына+канюшына, 5-6-7) канюшына 1-га, 2-га, 3-га году, 8) бульба, 9) ярына.

Саўгас штогод павялічае плошчу пасеву пад тэхнічнымі культурамі. У 1927 годзе бульба і двохрадовы ячмень займалі 81,18 *га*, а сёлета—148,24 га. Плошча пахаці таксама расьце, за кошт распрацоўкі няўдобы. Сёлета плошча павялічана на 16,41 *га* (2,72 проц.).

Блізка што ўся пасеўная плошча занята чыстасортнымі культурамі: жыта Шацкае і Іванаўскае, пшаніца Высокалітоўская, авёс „Пабеда“, ячмень „Залаты“, бульба Вольтман. Глеба высілена ў час вайны, і галоўная ўвага зьвернута на ўзьняцьце ўрадлівасьці глебы. Акрамя гною ўжываецца мінэральнае і зялёнае ўгнаеньне. За 1927 і 28 год унесена 2 тысячы пудоў мінэральных угнаеньняў, а сёлета каля 5 тысяч пудоў супэрфасфату, фасфарыту і касьцяной мукі. Шырока праводзіцца вапнаваньне.

Зьвернута належная ўвага на апрацоўку глебы. Амаль што ўся зямля ўзорваецца на зяб.

Паляпшаецца апрацоўка зямлі—няўхільна растуць ураджаі. Падымаецца прадукцыйнасьць працы пры машыннай апрацоўцы зямлі—і сабекошт прадукцыі з кожным годам зьмяншаецца.

III.

Галоўную ўвагу саўгас аддае тэхнічным прадпрыемствам, паляводству і жывёлагадоўлі.

Тэхнічныя прадпрыемствы (млын, крупадзёрка, пільня, бровар) даюць значны прыбытак, які за 1928-29 год дасягнуў 19891 руб. 5 к. На млыне змолана 1.065,7 тоны мукі і крупы, пільня перапрацавала 60.401 куб. мэтр лесаматар'ялаў.

---

У галіне поляводзтва адчуваецца недахоп цягавай сілы. На 1 каня прыпадае каля 12 гектараў пахаці. Саўгас меркаваў, выбракаваўшы 15 коняй—купіць 20, але Белселтрэст прапануе замест коняй набыць яшчэ адзін трактар. Гэта гаспадаркі пакуль што поўнасьцю забясьпечыць ня можа, бо: 1) мала прылад, прыстасаваных да працы трактарам; 2) саўгасу вельмі часта прыходзіцца перавозіць грузы на станцыю чыгункі (Слуцак) за 28 *км*.

---

Жывёла ў саўгасе ў большасьці палепшанай мясцовай пароды. Але праца па падбору жывёлы і палепшаны догляд яскрава даюць сябе адчуваць.

Сьвінаводзтва магло мець вялікае значэньне як для гаспадаркі, так і для ваколічнага сялянства, але далейшае разьвіцьцё гэтай важнай галіны гаспадаркі тармозіцца адсутнасьцю памяшканьня.

Жывёла саўгасу харчамі забясьпечана. Маюцца ўсе ўмовы для сіласаваньня зялёных кармоў.

IV.

Саўгас мае вялікі ўплыў на ваколічных сялян, зьяўляючыся прыкладам правядзеньня агрыкультурных палепшаньняў у сельскай гаспадарцы.

Сотні сялянскіх кароў, дзесяткі кабыл і сьвіней пакрыта саўгаскімі вытворнікамі.

Вялікую працу правёў саўгас па ачыстцы сялянскага насеньня: у 1928 годзе ачышчана сялянам 38 тон насеньня, а сёлета ўвесну 996,3 тоны (16 тысяч 320 пудоў) сялянскага насеньня. Акрамя гэтага 5890 пудоў саўгаснага чыстасортнага аўса абменена сялянам пуд за пуд. Такім чынам, дзякуючы саўгасу, каля 2-х тысяч дзесяцін сялянскай зямлі засеены чыстым і буйным насеньнем.

Майстэрні саўгасу рамантуюць с.-г. інвэнтар сялянам, а беднаце—рамонт бясплатны (сёлета адрамантавана 58 плугоў). Бедната дармова

карыстаецца саўгаскімі прыладамі і коньмі. У 1926 годзе беднякі атрымалі 32 с-г. прылады, у 27 годзе—65 прыладаў, у 1928 г.—72 прылады, сёлета—107 с.-г. прыладаў. Акрамя гэтага беднаце сёлета бясплатна адпушчана 45 пудоў насеньня, заворана 14 *га* і засеяна 5 *га*, а калгасу „Чырoны Маяк“, які знаходзіцца 17 *км* ад саўгасу заворана 40 *га*.

На землях сялян закладаюцца паказальныя вучасткі і г. д.

V.

Зьяўляючыся жывым прыкладам перавагі буйнай гаспадаркі перад дробнаю, саўгас Лапухі-Старыца ня мае належных вынікаў у справе калектывізацыі сялянскіх гаспадарак. Працу ў гэтай галіне саўгасу неабходна ўзмацніць, выканаўшы адзін з пунктаў умовы аб сацыялістычным спаборніцтве, заключанай саўгасам Лапухі-Старыца з саўгасамі Ануфрова і Покрашавам, пункт, які гаворыць аб арганізацыі ня менш 1-го вытворчага с.-г. аб'яднаньня.



Ангельскія сьвіньні (ёркшыры) саўгасу Лапухі-Старыца.

Гэтыя і шэраг іншых абавязкаў выконваюць рабочыя, праводзячы сацыялістычнае спаборніцтва. У саўгасе 73 штатных рабочых і служачых, з іх—7 сяброў КП(б)Б і 12 камсамольцаў. Настрой рабочых бадзёры.

Партячэйка, камсамольцы і ўсе рабочыя прымаюць актыўны ўдзел у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній на вёсцы.

У дзень рэлігійнага сьвята „спас“—урачыста правялі „Дзень індустрыялізацыі“. Усе рабочыя, як адзін вышлі на працу. Пасьля работы—з плякатамі і лёзунгамі, пад музыку, накіравалася дэманстрацыя рабочых у вёску Старыцу, дзе адбываўся фэст, правёўшы мітынг, прысьвечаны „Дню індустрыялізацыі“.

Пасьля нападу на Кітайска-ўсходнюю чыгунку рабочыя патрабавалі выпуску III пазыкі індустрыялізацыі і набылі абліғацый на 3438 руб. (звыш 100 проц. месячнай зарплаты). На пабудову самалёту „Беларускі Батрак“ сабралі 141 руб. Усе рабочыя выпісваюць газэту „Беларускі Батрак“ і інш. Усе важнейшыя пытаньні гаспадарчага жыцьця саўгасу абмяркоўваюцца на вытворчых нарадах пры ўдзеле ўсяго актыву.

Дзякуючы гэтаму паляпшаецца арганізацыя працы ў гаспадарцы Пасьля ўважлівай прапрацоўкі на вытворчых нарадах—вясновая

пасяўная кампанія праведзена значна больш арганізавана, як у мінулыя гады пры значна лепшых выніках.

Таксама—у час уборкі ўраджаю. У мінулыя гады снапы звозіліся ў гумно, а пасьля салома з двара вазілася ў поле дзеля накрыцьця капцоў бульбы, а сёлета малацьба жыта была праведзена на полі. Гэта дало значную эканомію, снапы ня трэба было перавозіць у гумно, а салома праз некаторы час тут-жа была скарыстана пад капцы. Такіх прыкладаў шмат.

Уся маса рабочых у вытворчыя нарады—слаба ўцягнута. У гэтых адносінах рабачкому і адміністрацыі неабходна ўзварушыць грамадзкую думку рабочых, паказаўшы вынікі працы вытворчых нарад (а вынікі даволі значныя), увёўшы прэм'яваньне рабочых за найбольш удалыя прапановы, якія даюць відавочны эфэкт у справе лепшай арганізацыі працы ў гаспадарцы і г. д.

У саўгасе 2 клюбы рабочых—у Лапухох і ў Старыцы. Пры клюбах—бібліятэчкі, газэты і часопісі, працуюць радыёпрыёмнікі з гучнагаварыцелямі, але культпраца, асабліва ў летні час, праводзіцца недастаткова. Слабасьць культпрацы дае сябе адчуваць, асабліва сярод работніц і жонак рабочых. Хрэсьбіны і шлюбы ў царкве паступова зьнікаюць, але яшчэ ня выведзены. Канчаткова ня выжытая рэлігійнасьць паасобных адсталых рабочых і работніц сьведчыць аб тым, што перад усімі грамадзкімі арганізацыямі саўгасу, рабочкомам і дэлегацкімі сходамі жанчын—непачаты край працы.

## VI.

Саўгас знаходзіцца сярод балот. Блізка—торф. Над скарыстаньнем торфу павінен прызадумацца саўгас. Гэта разьвяжа пытаньне з недахопам апалу і подсьцілу скаціне. А лік жывёлы саўгасу трэба павялічыць. Наяўнасьць брагі і іншых кармоў дае магчымасьць ставіць быдла на адкорм. Усё гэта разам узятае павінна забясьпечыць гаспадарку гноем, які, пры далейшым ужываньні мінэральнага і зялёнага ўгнаеньня, забясьпечыць узьняцьце ўраджайнасьці, прадугледжанае плянам соцыялістычнага спаборніцтва,

Цяпер саўгас—ня без падставы—марыць аб трактарнай калёне, аб шырокіх і ўраджайных, як палі саўгасу, палетках сялянскіх ніў, якія пакуль што вузенькімі стужкамі абкружаюць шырокія прасторы саўгасных палёў.

І, нарэшце, блізкая сапраўднасьць: у бягучым 1929-30 г. прадугледжана пабудова ў саўгасе электрастанцыі.

Расьце гаспадарка.

Зварот саўгасу

у 1924 годзе — 298.398 руб.
„ 1925 „ — 499.564 „
„ 1926 „ — 577.509 „
„ 1927 „ — 796.406 „

а за апошнія паўтары гады—1928-29—1.364.148 руб.

Лічбы самі за сябе гавораць!

Пройдзены гаспадаркаю шлях—ад поўнага разбурэньня да таго становішча, у якім яна цяпер знаходзіцца, сьведчыць аб тым, што кожны год далейшага жыцьця саўгасу, таксама будзе буйным крокам наперад—да новым дасягненьняў.

І. Капылянскі.

# ПЫТАНЬНІ ДЛЯ ХУТЧЭЙШАГА ВЫРАШЭНЬНЯ

## Праблема кадраў і шляхі яе частковага вырашэньня.

Тэмп падрыхтоўкі новых кадраў нельга параўнаць з тэмпам індустрыялізацыі і сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі. Мы стаім перад вялізарным рассоўваньнем „ножніц" паміж попытам на спэцыялістых і сучаснымі тэмпамі іх росту.
(З пастановы лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) ад 15-IX—1929 г.).

Хуткі рост калгасаў ва ўсім Савецкім Саюзе і ў БССР усё больш востра высоўвае пытаньне аб прыняцьці самых неадкладных мер да падрыхтоўкі і ўтварэньня патрэбнай нам колькасьці кадраў у сельскай гаспадарцы, асабліва спэцыялістых вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі.

Але органы, якія павінны гэтай справай непасрэдна займацца, напрыклад, НКАсьветы, Дзяржплян і г. д. ня толькі ня прымаюць рашучых крокаў да арганізацыі адпаведных навучальных установў і падрыхтоўкі нам патрэбных кадраў, але нават не зьвяртаюць дастатковай увагі на гэтае сур'ёзнае пытаньне.

Існуючыя зараз у БССР каля 120 буйных калгасаў з 175.000 гектараў зямлі абслугоўваюцца 3—4 аграномамі, а 80 куставых аб'яднаньняў (кожны куст складае 4—5 калгасаў) мае ўсяго 30 аграномаў. Шмат, якія кусты зусім не маюць аграномаў. Гэткае агразабясьпячэньне нават не здавальняе мінімальных запатрабаваньняў па абслугоўваньню калгасаў.

Мінімальныя запатрабаваньні ў кадрах хаця-б для буйных калгасаў, куставых аб'яднаньняў і акруговых саюзаў, ня гледзячы на ўсю сур'ёзнасьць гэтага пытаньня, не задавальняюцца. Акркалгассаюзы, якія зьяўляюцца фактычнымі кіраўнікамі ўсім калгасным рухам у акрузе, нават і наш цэнтральны апарат Белкалгассаюзу ня маюць яшчэ тых спэцыялістых, якія яму неабходны на сёнешні дзень. Паміж іншым, студэнты, якія аканчваюць Беларускую с.-г. Акадэмію, лічаць больш выгодным устрайвацца за межамі БССР.

Ня гледзячы на тое, што Беларусь зьяўляецца адным з дамінуючых ільнаводчаскіх раёнаў, нават у маштабе СССР, і абяцае шмат будучага для разьвіцьця беларускай ільняной прамысловасьці (напрыклад, Дрысенскі раён, Полацкай акругі), тым ня менш акругі і раёны не забясьпечаны ніводным спэцыялістым-ільнаводам. Нават у цэнтральным апараце Белкалгассаюзу няма спэцыялістага-ільнавода.

Зробленае абсьледваньне Белкалгассаюзам цэлага шэрагу раёнаў, акруг і калгасаў сьведчыць аб тым, што пытаньне аб забесьпячэньні нас кадрамі зьяўляецца пытаньнем першачарговай важнасьці. Без грунтоўнага і безадкладнага вырашэньня гэтага, немагчыма ажыцця-

леньне 5-гадовага пляну калектывізацыі сельскае гаспадаркі, а значыцца і перабудовы ўсёй нашай народнай гаспадаркі. Мы маем цэлы шэраг выпадкаў, калі адсутнічаньне аграпэрсаналу спрыяе разбурэньню некаторых калгасаў.

Дадамо прыклады, якія сыгналізуюць такую небясьпеку: 7 калгасаў у Буда-Кашалёўскім раёне, Гомельскае акругі, з-за адсутнічаньня ўсякага абслугоўваньня, а ў асаблівасьці агранамічнага—зусім разбурыліся. У Краснапольскім раёне, Магілеўскай акругі, па вышэйпералічаных прычынах распалася 9 калгасаў. Можна было-б сьпіс калгасаў, якія разбурыліся, працягнуць, але досыць і гэтага, каб упэўніцца ў тым, перад якой небясьпекай мы ўплатную стаім, калі ня прымем тэрміновых і неадкладных захадаў да вырашэньня пытаньня аб кадрах.

Няма чаго казаць, якую вялізарную шкоду нашай сацыялістычнай перабудове вёсцы прыносіць распад калгасаў. Асабліва гэта зьяўляецца козырам у руках нашага клясавага ворага—кулацтва, які і бяз таго „ціхай сапай“ прымае захады да штучнага затрыманьня калгаснага руху.

Усім вядома, што цэлыя раёны пераходзяць зараз на суцэльную калектывізацыю. Адзін з такіх раёнаў—Клімавіцкі, які ўжо перайшоў на суцэльную калектывізацыю, мае 102000 гектараў плошчы, а абслугоўваецца 3—4 аграномамі, у той час калі мінімальна патрэбна 30—40.

Ня лішнім для ілюстраваньня будзе і такі прыклад: калгас „Камунар“ на Магілеўшчыне, адзін з буйных калгасаў на Беларусі, які мае 10000 *га* зямлі, ня мае, ніводнага агранома ў той час калі кожны саўгас плошчаю 200—300 гектараў мае каля 3—4 аграномаў.

Ня гледзячы на нашу тэхнічную адсталасьць, мы маем на кожныя 3000 гектараў 1 трактар, а на кожныя 15.000 гектараў толькі аднаго агранома (а ўсяго па БССР на існуючыя зараз 1713 калгасаў ёсьць 60 аграномаў, прыблізна 1 агранам на 30 калгасаў). Гэткае становішча лішні раз сьведчыць аб тым, што бяз прыняцьця рашучых, сапраўдна бальшавіцкіх захадаў у вырашэньні праблемы кадраў, мы можам значна аслабіць тэмп калектывізацыі, які набыў у апошні час вельмі шырокі размах.

Разьлічваць на нашу беларускую прадукцыю мы ні ў якім разе ня можам. Прапускная здольнасьць Горацкай с.-г. Акадэміі, якая зьяўляецца асноўнай базай па забясьпечаньню нас спэцыялістымі вышэйшай кваліфікацыі, вельмі нязначная і ў лепшым выпадку яна можа даць 40—50 чалавек для ўсяго абагуленага сэктару. Акрамя таго, Акадэмія да гэтай пары рыхтуе аграномаў па абслугоўваньню індывідуальнай гаспадаркі, а не сацыялістычнага сэктару. Арганізаваны недаўна факультэт па калектыўнаму земляробству, зможа даць выпускі праз 3—4 гады, а то і больш, г. з. к канцу пяцігодкі. Мінімальна-ж патрэбна ў 29-30 годзе 2275 чалавек, з якіх аграномаў розных спэцыяльнасьцяй вышэйшай кваліфікацыі—301 чалавек, 578 сярэдняй і 1356 ніжэйшай. Трэба адзначыць, што і прыведзеныя даныя не адпавядаюць шпаркаму тэмпу калектывізацыі і колькасьці калгасаў на сёнешні дзень. Сюды таксама ня ўключаны раёны суцэльнай калектывізацыі, напрыклад, Клімавіцкі, які мае 30000 рабочых і усяго 3—4 аграномы.

Наш 10-цігадовы кадравы плян па аднэй толькі сыстэме Белкалгассаюзу вызначае 47.216 спэцыялістых вышэйшай, сярэдняй і ніжэйшай кваліфікацыі. Але ўлічваючы сучасны вельмі павольны тэмп НКАсьветы па падрыхтоўцы кадраў, пры існуючай сыстэме і колькасьці ВУЗ'аў ня можа быць і думкі аб задавальненьні вызначанай колькасьці. А між тым поўны ахоп БССР калгасамі ўжо запраекта-

ваны для ажыцьцяўленьня на працягу бліжэйшых 2—3 год. Таму і 10-цігадовы кадравы плян павінен таксама скараціць свае тэрміны, яго трэба ўвязаць у суровай адпаведнасьці з плянам калектывізацыі.

Наколькі пытаньне аб кадрах недастаткова абмеркавана відаць з таго, што нават такое пытаньне, як кантрактацыя студэнцтва, нікім дагэтуль канкрэтна ня вырашана і таму кантрактацыя праходзіць самацёкам.

Які-ж лёгічны вывад застаецца зрабіць з усяго сказанага?

Па-першае, у адпаведнасьці з апошняй пастановай ЦК УсеКП пытаньню аб кадрах надаць ударны характар.

Па-другое, рашуча выкарчаваць прышчэпаўшчыну, якая і да гэтага часу наглядаецца ў галіне падрыхтоўкі кадраў і ў корані перабудаваць усю сыстэму с.-г. асьветы, перанесьці ўвесь цэнтр цяжкасьці на абслугоўваньне калектыўнай гаспадаркі.

Па-трэцяе, мабілізаваць усе сілы і сродкі для больш хуткага і пасьпяховага ажыцьцяўленьня гэтай задачы. Да гэтага належыць таксама і мабілізацыя рабочых, якіх трэба накіраваць у калгасы для ўзмацненьня пралетарскага ўплыву ў апошніх.

І, нарэшце, чацьвертае, узмацніць і ўмацаваць працу вучоту і разьмеркаваньня ў калгаснай сыстэме, аказваючы ім усялякае садзейнічаньне ў падшуканьні і рацыянальным разьмеркаваньні кадраў.

Канкрэтна, у нашых умовах мы высоўваем наступныя практычныя мерапрыемствы, для якіх трэба вызначыць належныя сродкі і правесьці зараз-жа:

1) Значна ўзмацніць існуючую сетку с.-г. адукацыі, зьвярнуўшы галоўную ўвагу на факультэт калектыўнага земляробства с.-г. Акадэміі, Каніцкага калектыўнага тэхнікуму і г. д.

2) У 1929-30 годзе адчыніць новых 2 факультэты пры Акадэміі, адзін выключна па жывёлагадоўлі, а другі па рольніцтву і яшчэ 2 тэхнікумы калектыўнага земляробства і 1 спэцыяльны трактарны тэхнікум.

3) Павялічыць прыём на пералічаныя факультэты ў параўнаньні з бягучым годам у 2 разы.

4) Правесьці датэрміновы выпуск Акадэміі і с.-г. Тэхнікуму.

5) Значна скараціць тэрмін навучаньня і зжыць засіджваньне студэнтаў на вучобе.

6) З прычыны таго, што вялічэзная патрэба ў кадрах ня можа быць задаволена існуючай сыстэмай і сеткай доўгатэрміновых с.-г. ВНУ, неабходна разгарнуць шырокую сетку стала існуючых рознага роду курсаў пры Акадэмі, і тэхнікумах для падрыхтоўкі кіраўнікоў буйных калгасаў і куставых аб'яднаньняў, з прапускною здольнасьцю штогод ня менш 200 асоб і тэрмінам навучаньня ад 1 да 2 год.

7) Для падрыхтоўкі кадраў практычных вопытных працаўнікоў утварыць спэцыяльны практычны інстытут.

8) Для падрыхтоўкі масавых кадраў актывістых: кіраўнікоў калгасаў і паасобных галін сельскае гаспадаркі, трактарыстых-манцёраў, масларобаў, сыравараў, рахункаводаў і масавых культбытавых працаўнікоў—разгарнуць шырокую сетку кароткатэрміновых курсаў з тэрмінам навучаньня ад 2 да 3 месяцаў, арганізаваўшы іх пераважна пры буйных калгасах, прапусьціўшы праз іх ня менш 2.000 сяброў калгасаў, а для іх абслугоўваньня стварыць з добра падрыхтаваных агранамічных работнікаў групу выкладчыкаў (некаторыя з пералічаных курсаў ужо арганізоўваюцца).

9) Для папулярызацыі і ўнядрэньня агранамічных ведаў сярод калгасьнікаў, прапусьціць праз існуючыя раённыя агра-курсы ня менш 5000 калгасьнікаў.

10) У бягучым годзе перакінуць на працу ў калгасы спэцыялістых сельскае гаспадаркі беспрацоўных, працуючых у кіруючых апаратах, а таксама і тых, што працуюць не па сваёй спэцыяльнасьці.

11) Разгортваньне новых агранамічна-вэтэрынарных пунктаў стварыць у першую чаргу пры калгасах. У адносіне да існуючых агра і вэтпунктаў усюды, дзе гэта магчыма і мэтазгодна, ажыцьцявіць пераход на тэрыторыі калгасаў.

12) Да 1930 году ажыцьцявіць праграму завочнага навучаньня для падвышэньня кваліфікацыі спэцыялістых і агранамічнай пісьменнасьці сяброў калгасаў.

13) У 1930-31 годзе ліквідаваць няпісьменнасьць сярод усіх калгасьнікаў да 45-гадовага ўзросту, пабудаваўшы праграму навучаньня на паведамленьне ведаў у галіне неабходнай ім агрыкультурнай пісьменнасьці. У далейшым, як правіла, ліквідаваць няпісьменнасьць сярод калгасьнікаў на працягу 1 году пасьля ўзьнікненьня калгасу.

14) Ахапіць першапачатковым навучэньнем дзяцей 8-мігадовага ўзросту сяброў калгасаў.

15) У гэтым годзе камандыраваць 15 акадэмічных работнікаў і спэцыялістых па сельскай гаспадарцы за межы, і

16) Новыя навучальныя ўстановы, як правіла, устанаўляць на тэрыторыі буйных агра-калгас-камбінатаў.

Усе пералічаныя мерапрыемтвы павінны быць праведзены ў самым хуткім часе і толькі ў гэтым выпадку можа быць значна паменшаны крызіс у кадрах, які так моцна адчуваецца ў нас.

Побач з паказанымі мерапрыемствамі трэба дасканала прапрацаваць пытаньне, і зразумела, вырашыць пытаньне аб кантрактацыі студэнтаў. У парадку практычнага мерапрыемства лічым неабходным стварыць спэцыяльную міжустаноўную арганізацыю (савет), якой і даручыць кіраўніцтва справай кантрактацыі.

Тэрмінова перабудаваць усю працу шэфаў у вёсцы і зьмяніць мэтады іх працы, зьвярнуўшы галоўным чынам увагу на максымальнае абслугоўваньне калгасаў аградапамогай.

Цэнтральнаму Бюро Аграсэкцыі практыкаваць прыняцьце шэфства аграномамі і інш. спэцыялістымі над калгасамі, арганізаваўшы спэцыяльныя выезды на месцы для аказаньня аградапамогі.

Вялікі кадр студэнцтва, які ёсьць на Беларусі, павінен быць скарыстаны ў часе летняга адпачынку для практычнай работы ў калгасах.

Асоба стаіць пытаньне аб безадкладным урэгуляваньні аплаты працы аграномаў БССР і тым самым затрымаць „перабежчыкаў" у іншыя рэспублікі.

*Зразумела, меры якія прапануюцца намі для зьмяншэньня кадравага крызісу зьвязаны з вялікімі матар'яльнымі выдаткамі і мабілізацыяй грамадзкай думкі. Але сродкі для гэтага павінны быць знойдзены і частка паказаных мерапрыемстваў павінна быць ажыцьцёўлена зараз-жа. Гэтым самым выканаем наш плян вялікіх работ па сацыялістычнай рэканструкцыі нашай вёскай і пабудове сацыялізму ў нашай краіне.*

**Е. Новік.**

# Аб накіраваньні 600 рабочых у калгасы па ўзмацненьню пралетарскага ўплыву ў вёсцы.

Сацыялістычная рэканструкцыя вёскі ў напрамку ўтварэньня калектыўных форм гаспадаркі ўпіраецца ў вельмі сур'ёзнае пытаньне, гэта забясьпечаньне калгаснага будаўніцтва адпаведнымі кадрамі.

Пры вырашэньні пытаньня аб кадрах трэба выходзіць з сапраўдных запатрабаваньняў у такіх кадрах, якія цалкам апавядалі-б тым вялікім задачам, пастаўленым партыяй і ўладай па арганізацыі такіх калгасаў і аб'яднаньняў, якія зьяўляліся-б сапраўднымі правадырамі палітыкі камуністычнай партыі па ўзмацненьню прынцыпаў дыктатуры пралетарыяту ў вёсцы.

На вялікі жаль, нельга гэтага сказаць у сучасны момант аб некаторай, вельмі нязначнай частцы працаўнікоў, якія стаяць нават на чале калгаснага руху. Аб гэтым сьведчыць нядаўна скончаная чыстка сялянскіх партыйных ячэек і цэлы шэраг іншых фактаў.

Вось чаму Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) канстатаваў:

*„Засьмечанасьць сацыяльнага складу ў частцы калгасаў, недастатковае прыстасаваньне форм кіраўніцтва да маштабаў калгаснага руху, а таксама адсталасьць ад тэмпу і размаху гэтага руху і ня рэдка простая нездаволенасьць кіраўнічых органаў калгаснага руху“.*

Шырокае разгортваньне калгаснага руху працякае ў абставінах абвастрэньня клясавай барацьбы на вёсцы, у зьмене яе форм і мэтадаў. Побач з узмацненьнем адкрытай барацьбы кулацтва супроць калектывізацыі, якая даходзіць да тэрору (забойства, падпалы, шкодніцтвы), кулакі ўсё часьцей пераходзяць да замаскаваных і скрытых формаў барацьбы і эксплёатацыі, пранікаючы ў калгасы і нават у органы кіраўніцтва калгасаў, каб разлажыць і ўзарваць іх унутры.

У зьвязку з гэтым паўстае задача вельмі важная і сур'ёзная па ўзмацненьню кіраўніцтва калгасным рухам упаўне вытрыманымі і ўстойлівымі таварышамі, у асаблівасьці ўзмацніўшы пралетарскі ўплыў на вёсцы. Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП так і адзначае, што:

*„Важнейшай задачай партыйных арганізацый зьяўляецца ўсямернае ўзмацненьне ўдзелу і кіраўнічага ўплыву пралетарскіх элемэнтаў гораду, пралетарскіх і поўпралетарскіх слаёў вёскі ў калгасным руху“.*

Калгасны рух прыняў такія разьмеры, якія патрабуюць рашучай рэвалюцыйнай перабудовы ўсёй сыстэмы, праграмы і мэтадаў падрыхтоўкі кадраў для калгаснага будаўніцтва.

Павінна быць забясьпечана рашучае павялічэньне пры новых прыёмах у ВНУ і Тэхнікумы калгасьнікаў, асабліва з батракоў і беднаты.

Побач са значным павялічэньнем кадраў спэцыялістых паасобных галін сельскае гаспадаркі, трэба ў сучасны момант накіраваць усю ўвагу на ўкамплектаваньне нізавых зьвеньняў калгаснай сыстэмы арганізатарамі і кіраўнікамі. У прыватнасьці, укамплектаваньне наступных галін працы павінна быць утворана за кошт вылучэньня рабочых непасрэдна з вытворчасьці гораду (зразумела, папярэдня іх падрыхтаваўшы адпаведным чынам):

1. Кіраўнікамі і сябрамі Саветаў буйных калгасаў і агра-калгаскамбінатаў—240 асоб.
2. Кіраўнікамі куставых аб'яднаньняў—107 асоб.

3. Сябрамі Праўленьня, інструктарамі, і іншымі рознымі працаўнікамі ў Акркалгассаюзах і спэцыяльных сыстэмах с.-г. каапэрацыі—48 асоб.

4. Кіраўнікамі і іншымі адказнымі працаўнікамі Райкалгассаюзаў, асабліва ў раёнах суцэльнай каляктывізацыі—200 асоб.

5. У цэнтральным апараце Белкалгассаюзу—5 асоб.

6. Кіраўнікамі розных прадпрыемстваў (млыны, сыраварні, цагельні, вінакураныя заводы і г. д.), загадчыкамі гаспадарак і паасобных галін гаспадаркі.

Магутным рэзэрвам, з якога павінны чарпацца вышэйпералічаныя кіраўнічыя кадры будаўнікоў сацыялістычнага земляробства, як кажа пастанова Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП, зьяўляюцца *індустрыяльныя рабочыя.*

Выходзячы з гэтага і прымаючы пад увагу імкненьне прамысловых рабочых да актыўнага ўдзелу ў калектывізацыі вёскі, што выяўляецца ў масавай арганізацыі рабочых брыгад, у вылучэньні ініцыятараў і арганізатараў калгаснага будаўніцтва, ва ўдзеле рабочых у вытворчых нарадах калгасаў, правядзеньні „Дню ўраджаю і калектывізацыі“ і г. д. Пленум ЦК УсеКП пастанаўляе:

*„Акрамя сыстэматычнага ўзмацненьня калгаснага руху партыйнымі кіруючымі сіламі, накіраваць у вёску на працягу бліжэйшых месяцаў на працу ў калгасы, машынна-трактарныя станцыі, куставыя аб'яднаньні і г. д. ня менш 25.000 рабочых з дастатковым арганізацыйна-палітычным вопытам“.*

З паказанай колькасьці 25000 рабочых па БССР будзе накіравана 500 рабочых, якія і будуць вылучаны з прамысловасьці БССР, акрамя 100 рабочых, якія будуць прысланы з Ніжняга-Ноўгараду.

Да правядзеньня гэтай важнейшай неадкладнай працы ўжо прыступлена ЦСПСБ сумесна з Белкалгассаюзам. Апошнімі ў тэрміновым парадку ўжо распрацоўваюцца пляны і мэтады іх правільнага разьмеркаваньня, скарыстаньня і падрыхтоўкі.

Трэба адзначыць, што да гэтай важнейшай палітычнай кампаніі не прыцягнута дастаткова грамадзкасьць. Амаль што на многіх прадпрыемствах нават не прапрацоўвалася рашэньне Пленуму ЦК па гэтаму пытаньню.

Трэба мець на ўвазе, што вылучаныя рабочыя павінны быць зараз падрыхтаваны і накіраваны ў вёску з тым разьлікам, каб яны маглі прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні выбарчай кампаніі калгасаў і прадстаячай вясеньняй пасеўкампаніі.

Неабходна адзначыць, што вылучэньне рабочых на прадпрыемствах павінна прайсьці пад знакам растлумачэньня асноўных задач, стаячых перад пралетарыятам у зьвязку з сацыялістычнай перабудовай вёскі. Таму трэба адносіцца да гэтага з усёй сур'ёзнасьцю, каб былі вылучаны таварышы, якія маюць ня менш як 5-цігадовы вытворчы стаж і дастатковы грамадзка-палітычны вопыт працы. Трэ' таксама мець на ўвазе нацыянальны пераплёт калгасаў БССР, каб былі забясьпечаны пралетарскім кіраўніцтвам нацыянальныя калгасы (яўрэйскія, польскія, латыскія і інш.), бо з агульнай колькасьці 2000 калгасаў у БССР маецца значная частка нацыянальных—яўрэйскіх—238, польскіх—34, латыскіх—4 і іншых—4. Разам з гэтым трэба, каб былі таксама вылучаны і жанчыны.

Белкалгассаюзам зараз распрацована пытаньне аб падрыхтоўцы вылучаных рабочых у наступным напрамку: ва ўсіх акругах будуць створаны каротка-тэрміновыя 2-х тыднёвыя курсы з 8-мічасовым навучаньнем кожны дзень з такім разьлікам, каб азнаёміць рабочых з асноўнымі пытаньнямі калгаснага будаўніцтва і яе арганізацыйнымі формамі. Акрамя гатага, часопіс „Шляхі каляктывізацыі“ будзе амаль што цалкам прысьвечан гэтаму пытаньню. Таксама будзе складзена 500 экзэмпл. бібліатэк з неабходнай масавай літаратуры, якая будзе выдана кожнаму рабочаму, які ад'яжджае на працу ў вёску. Аднак, гэта яшчэ канчаткова не вырашае пытаньня аб падняцьці кваліфікацыі ў рабочых па калгаснаму будаўніцтву. Вось чаму трэба кожны год вылучаных рабочых падрыхтоўваць больш дасканала шляхам пропуску іх праз існуючую сетку розных курсаў і школ.

Пры разьмеркаваньні рабочых па акругах і раёнах трэба вытрымаць прынцып узмацненьня раёнаў суцэльнай калектывізацыі, у прыватнасьці, Магілеўскую акругу, якая пераходзіць зараз цалкам на суцэльную калектывізацыю. Выходзячы з гэтага прынцыпу і складзена разьвёрстка, якая характарызуе зусім правільны падыход Белкалгассаюзу пры разьмеркаваньні рабочых, што відаць з наступнага: у Магілеўскую акругу будзе накіравана 150 асоб, у Бабруйскую акругу—70, Гомельскую — 65, Аршанскую — 70, Віцебскую—60, Менскую—80, Мазырскую—50 і Полацкую—50 і ў цэнтру 5 асоб.

З гэтай колькасьці, 48 рабочых будуць вылучаны на адказную працу ў Акркалгассаюзах і спэцыяльных сыстэмах с.-г. каапэрацыі, у якасьці сяброў Праўленьня, а 200—старшынямі і сябрамі Райкалгассаюзаў, Райпаляводсаюзаў і Раймолжывсаюзаў.

Зараз трэба правесьці шырокае растлумачэньне сярод калгасаў і бядняцка-серадняцкай часткі насельніцтва, каб стварыць належныя ўмовы і абставіны ў працы вылучаных рабочых, аказаўшы ім актыўную дапамогу ў працэсе ўсёй працы па калгаснаму руху.

Вылучаючы рабочых з вытворчасьці на кіруючую працу ў вёскі, мы павінны іх таксама і матар'яльна забясьпечыць, з такім разьлікам, каб захаваць за імі той сярэдні ўзровень зарплаты, які яны атрымоўвалі на працы ў прадпрыемстве. Розьніцу паміж аплатай на вёсцы і прадпрыемствам неабходна аплаціць, таму трэба мабілізаваць для гэтай мэты ня толькі сілы, але і сродкі, галоўным чынам грамадзкіх і інш. арганізацый. Таксама трэба забясьпечыць і сям'ю рабочага, паколькі яна пакуль-што застаецца ў горадзе.

Усе гэтыя пытаньні, як пытаньні вылучэньня рабочых і пасылка іх на сталую працу наогул, зьяўляюцца вельмі сур'ёзнымі, ад правільнага вырашэньня якіх і залежыць наша далейшае пасьпяховае разьвіцьцё ў сацыялістычнай перабудове вёскі.

Е. Н.

# На замену сіняга каменю.

*(Працяг).*

У № 5 часопісу „Шляхі Калактывізацыі“ мы гаварылі аб мэтах і карысьці ўжываньня вапнасеркавага злучэньня для барацьбы з грыбнымі хваробамі расьлін. Ніжэй падаюцца досьледы, якія намі праведзены.

Прыгатаўляўся раствор па агульна-вядомаму рэцэпту амэрыканскіх дасьледчыкаў.

Вапны — 18,16 *кгр* (40 анг. ф.)
Серкі — 36,32 „ (80 анг. ф.)
Вады — 227 літр. (50 галонаў)

Мы для сваіх мэт бралі:

Вапны 1 *кгр*
Серкі 2 „
Вады 12 *літр.*

Вапна бралася сьвежа-апаленая неадгашаная. Гасілася вапна цёплаю вадою. Гэта зараз-жа выклікала рэакцыю гашэньня вапны. У гэты момант да вапны дадаваўся змочаны цёплаю вадою і перацёрты ў цеста парашок серкі. Па ходу рэакцыі дабаўлялася яшчэ вада, вапна і цеста серкі. Увесь гэты час маса перамешвалася. Калі рэакцыя гашэньня вапны прымала вельмі бурны характар, туды далівалася халодная вада. Пасьля апусканьня ў ваду адважаных норм вапны і серкі і спыненьня надворных адзнак гашэньня вапны, да раствору дабаўлялася патрэбная да нормы колькасьць вады і ўся маса яшчэ гадзіну трымалася на агні пры пастаянным перамешваньні. Тэмпэратура была блізкай да кіпеньня. Пасьля гэтага раствор, які меў цёмна-янтарную ахварбоўку, быў пастаўлен на адны суткі для адстайваньня. На другі дзень зусім чыстая празрыстая вадкасьць з янтарна-жоўтым водценьнем была зьліта асьцярожна ў другую пасудзіну. Гэта і ёсьць той фунгісід, які мае ў сваім складзе пяцісеркавы кальцы з актыўным фунгісідным характарам [1]).

Ужо адно тое, што прэпарат можна папярэдня да ўжываньня прыгатаваць, вызначыць яго крэпасьць, а значыць і норму разбаўленьня вадою пры карыстаньні—дае яму вялікую перавагу перад бардоскаю вадкасьцю. Прэпарат можа прырыхтоўвацца ў вялікай колькасьці і ў бочках захоўвацца ў спратах, дзе няма марозу. Пры закрытых бочках ён можа стаяць доўгі час без асаблівых зьмен. На бочках вызначаецца крэпасьць фунгісіду на ўд. в. і норма разбаўленьня вадою. Для праверкі прэпарату было пастаўлена два пытаньні:

1. Устанаўленьне нормы разбаўленьня вапна-серкавага злучэньня пры апырскваньні лісьця садовых дрэў і кустоў.

2. Прыстасаваньне гэтага прэпарату для апырскваньня саду ў мэтах барацьбы з паршою яблык.

---

1) Для вызначэньня ступені разбаўленьня фунгісіду (хэмічнага вапна-серкавага злучэньня) перад апырскваньнем арэомэтрам вызначалася яго ўдзельная вага (крэпасьць). Наш прапарат меў уд. в. 1,198. Для ўстанаўленьня нормы разбаўленьня мы карысталіся табліцаю, якую прыводзіць З. Мятліцкі („Сад и огород“, № 4, 1929 г.). Там паказаны нормы разбаўленьня, як для апырскваньня саду бяз лісьця (1 : 8 — 1 : 20), так і для зялёных частак расьліны (1 : 30 — 1 : 75). У табліцы прымаецца пад увагу і крэпасьць вапна-серкавага злучэньня (уд. вага).

Апырскваліся галінкі ў яблыні, ігрушы, сьлівы, вішні, агрэсту.

Канцэнтрацыя бралася такая—1:30; 1:40; 1:50; 1:75.

Апырскваньні былі зроблены 8-VI, 13-VI, 17-VI, 22-VI і 8-VII.

**Вынікі**. Для яблыні, сьлівы і вішні ўсе канцэнтрацыі аказаліся няшкоднымі. Лісьце было зялёнае, няскручанае і незаўважвалася загрубеньня тканак. Значыць, для нашых кліматычных умоў і самая нізкая з узятых норм (1:30) ня можа лічыцца шкоднай.

Для ігрушы канцэнтрацыю 1:30 трэба лічыць моцнаю. Тут некаторае лісьце падсыхала і мела нязначнае скручваньне. Пры іншых нормах лісьце было нармальным.

Для агрэсту канцэнтрацыя 1:30 і 1:40 далі лёгкае пажаўценьне і пачырваненьне лісьця. К восені яны раней ападалі. Канцэнтрацыі 1:50 і 1:75 далі нармальнае разьвіцьцё кустоў агрэсту.

Ацэнка тых-жа канцэнтрацый з боку праяўленьня фунгісіднага характару вапна-серкавага злучэньня паказала высокую вартасьць гэтага прэпарату. Так на апырснутых галінках яблыні 7-VIII было адзначана:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Канцэнтрацыя | 1:30 | 1:40 | 1:50 | 1:75 |
| Лік лісьця пашкоджанага паршаю | 0 | 1 | 1 | 8 |

На кантрольных-жа галінках пашкоджанага паршаю лісьця было да 50 проц.

Неапырснутае лісьце сьлівы было ў значнай ступені пашкоджана грыбком [1]). Пад уплывам грыбка яно выглядала як-бы прастрэленым, а ўвосень раней жаўцела і ападала. Лісьце апырснутых галінак сьлівы мела зялёнае і нармальнае лісьце да позьняй восені.

Таксама добры ўплыў фунгісіду наглядаўся пры апырскваньні агрэсту супроць амэрыканскай мучной расы. На апырснутым кусту ягады былі чыстыя і значна паражонымі на кантролі.

Для вывучэньня ўплыву вапна-серкавага злучэньня на пашырэньне паршы яблыні праводзілася апырскваньне 20 дрэў яблыні сорту антонаўка ў садзе на Пярэсьпе (Менск). Усе дрэвы знаходзіліся ў адным чатырохкутніку. Апырскваньне было праведзена па такой схэме:

| Канцэнтрацыя фунгісіду | Лік апырснутых дрэў | Час апырскваньня | Пашкоджан. паршаю лісьця 9-VII | Пашкоджан. паршаю пладоў 7-VIII |
|---|---|---|---|---|
| 1:30 | 4 | 10-VI, 26-VI 17-VI | Няма | 0—1 бал. |
| | 4 | " " . | " | " " " |
| 1:40 | 4 | " " " | " | 1 бал. |
| | 4 | " " " | " | " " " |
| Кантроль | 4 | — — — | Слаба | 2-3 балы |

Бязумоўна, балавая ацэнка паражонасьці паршаю апырснутых дрэў не дае яшчэ выразнага адказу.

Для большай дакладнасьці досьледу быў зроблен поўны вучот ураджаю яблык чатырох дрэў (па 1 дрэву на кожную канцэнтрацыю

[1]) Clasterosporium carpoptilum (Dev.) Aderh.

і паўторнасьць). Здымаліся ўсе яблыкі з дрэва, сартаваліся на чыстыя і плямістыя, падлічваліся і ўзважваліся. Вынікі такога аналізу прыведзены ў табліцы.

Вучот ураджаю апырснутых яблынь. Пярэспа, 1929 г.

| Канцэнтрацыя фунгісіду | | Вучот ураджаю: Усяго падлічана | Вучот ураджаю: Пашкоджана паршаю | Вучот ураджаю: % пашкоджаных | Вага здар. і пашкодж. яблык у кгр. | % пашкодж. па вазе | Сярэдняя вага яблык гр.: Здар. | Сярэдняя вага яблык гр.: Пашк. паршаю |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 : 30 | 1 дрэва на сонцы | 362 | 2 | 0,55 | 40,88 | 0,20 | 113,3 | 40,0 |
| | 1 дрэва (цень) | 345 | 123 | 35,65 | 40,00 | 32,25 | 122,1 | 104,9 |
| 1 : 40 | 1 дрэва | 414 | 190 | 45,89 | 50.00 | 43,30 | 126,6 | 113,9 |
| | 1 „ | 162 | 42 | 25,92 | 20,00 | 25,50 | 124,2 | 121,4 |
| Кантроль | | 356 | 235 | 66,00 | 39,00 | 64,36 | 114,9 | 106,8 |

Малы процант пашкоджаных яблык на першым дрэве (0,55 проц.) трэба тлумачыць тым, што гэта дрэва было крайнім і добра асьвятлялася сонцам. Усе іншыя дрэвы былі ў цяні, дзе маглі быць і адменныя ўмовы вільгаці. Гэты прыклад можа гаварыць аб тым, што абрэзка (асьвятленьне) саду вясною ці ўвосень ня спрыяе пашырэньню паршы.

Трохразовае апырскваньне дрэў не дало поўнасьцю здаровых яблык але зьнізіла лік пашкоджаных з 66 проц. да 25—35 проц. Такое зьніжэньне пашкоджаньня мае значэньне на падвышэньне таварнасьці саду. Усе адабраныя чыстыя яблыкі могуць лічыцца кандыцыйнымі і годнымі для вывазу на замежны рынак.

Пры працягваньні апырсканьняў пазьней (жнівень) і апырскваньні ўсяго саду, а ня выбаркаю аднаго вучастку, пэўна, можна будзе мець яшчэ лепшыя вынікі. Напэўна, будзе зьніжаць проц. пашкоджаньня і веснавое апырскваньня дрэў у большых канцэнтрацыях фунгісіду. Канцэнтрацыю 1 : 40 трэба лічыць слабай, бо і 1 : 30 не дала апальваньня лісьця яблыні [1]).

С. Тупяневіч

(Дасьлед. Станцыя Аховы
Расьлін БНДІ.)

1) Вывучэньньне хэмічнае характарыстыкі вапна-серкавага злучэньня праводзіцца ў Хэмічнай Лябараторыі БНДІ.

Такім чынам, усе першыя назіраньні і вывучэньне вапна-серкавага злучэньня гавораць за тое, што гэты фунгісід заслугоўвае вялікай увагі: ён танны, просты пры ўжываньні, не забівае апаратуры і мае выразную атрутнасьць.

Таксама ўжо цяпер можна спрабаваць і прыгатаваньне фунгісіду ў больш шырокім разьмеры.

# ХРОНІКА

## Барацьба за агранамічную пісьменнасьць вёскі.

Сацыялістычная перабудова сельскае гаспадаркі, вялізарны ўзрост калгаснага будаўніцтва—патрабуюць разам з падрыхтоўкай агранамічных і тэхнічных кадраў масавай ліквідацыі агранамічнай няпісьменнасьці на вёсцы.

Партыйныя, савецкія і грамадзкія арганізацыі Ніжня-Волскага краю паставілі грандыёзную задачу ліквідаваць агранамічную няпісьменнасьць звыш, чым 200.000 чалавек.

Обласьць па баявому мабілізуе свае сілы на агра-паход. Праграма паходу мяркуе ўзбраеньне агранамічнымі ведамі ўсіх вясковых камуністых, камсамольцаў, жандэлегатак, усяго партыйнага, камсамольскага, прафсаюзнага і каапэрацыйнага актыву обласьці, усіх членаў калгасаў і рабочых саўгасаў, актыву бядняцка-серадняцкіх мас і чырвонаармейскіх частак Ніжня-Волскага краю.

Краявы камітэт УсеКП(б), абвясьціў арганізаваць у краі агралікбезпаход. Арганізаваны краявы штаб аграпаходу. У склад штабу аграпаходу ўвайшлі прадстаўнікі Крайкомаў УсеКП(б) і ЛКСМ, крайпрафсавету, калгассаюзу, крайшэфвобчаства, абласных саюзных коопэрацый і г. д., а таксама буйнейшыя навуковыя работнікі обласьці—прафэсары Гуладкаў, Богаеўскі, Мядзьведзяў і Ланда.

Неабходна, каб і ў нас, на Беларусі скарыстаць гэты добры прыклад Ніжня-Волскага краю.

## Што даў дзень калектывізацыі па БССР.

У дзень „ураджаю і каляктывізацыі“ па БССР арганізаваны 223 новыя калгасы на плошчы ў 114.500 гектараў. Акрамя гэтага—узбуйнена 99 калгасаў, галоўным чынам—за лік далучэньня да іх 20.000 *га* зямлі з вакольных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Ва ўсіх раёнах у гэты дзень былі арганізаваны сельска-гаспадарчыя выстаўкі. Значная частка выставак была арганізавана на тэрыторыі саўгасаў і калгасаў. Многія саўгасы і калгасы атрымалі на выстаўках прэміі. Так, напрыклад, 83 проц. усіх прэмій у Аршанскай акрузе атрымалі калгасы і саўгасы.

## Элэктрыфікацыя Мар‘інскага калфонду.

У зьвязку з вялікім ростам каляктывізацыі ў Бабруйшчыне—Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі высунуў праект электрыфікацыі Мар‘інскага калфонду шляхам пабудовы электрастанцыі ў 5.000 кілёват. Электрастанцыя ахопіць раён у 50—80 тысяч гектараў зямлі. Для пачатку работ адпушчаны 350.000 руб.

## 500 рабочых—на калгаснае будаўніцтва з прадпрыемстваў БССР.

Згодна пастановы ЦК КП(б)Б на працягу бліжэйшых 2 месяцаў будзе вылучана 500 рабочых, якія маюць належны арганізацыйна-палітычны вопыт. Рабочыя будуць пасылацца ў вёску на сталую працу тэрмінам ня менш, чым на 1 год. Белкалгассаюз мяркуе скарыстаць гэтых вылучэнцаў у якасьці старшынь буйных калгасаў і куставых аб‘яднаньняў, загадчыкаў асобнымі вытворчасьцямі калгасаў і г. д. Значная частка гэтых вылучэнцаў будзе накіравана ў Магілеўскую акругу масавай калектывізацыі.

## Што павінна паказаць 1-я Ўсебеларуская Выстаўка.

Згодна пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР першая Ўсебеларуская Выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці павінна паказаць дасягненьні Савецкай Беларусі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва. Выстаўка павінна паказаць, што вызваленьне Беларусі ад паноў-абшарнікаў і капіталістых, утварэньне савецкай улады, улады дыктатуры пралетарыяту і дапамога з боку Савецкага Саюзу забясьпечылі магчымасьць шырокага разгортваньня сацыялістычнага, гаспадарчага і культурнага разьвіцьця краіны. Яна павінна паказаць, што толькі на базе індустрыялізацыі краіны, праз сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі шляхам яе калектывізацыі, Савецкая Беларусь зможа вырашаць задачу перамогі сацыялізму.

## Становішча хлебазагатовак па калгасах БССР.

На 20 лістапада калгасамі Беларусі здана 40.032,7 тон хлебных лішкаў. Калгасы Аршанскай акругі выканалі плян на 103,5 проц., Гомельскай на 100,5 проц.—калгасы Магілеўшчыны—107,2% Полаччыны выканалі плян на 112,1 проц. Віцебшчыны на 111.5, Бабруйшчыны—81,9 проц.

## Калектывізавана 17% плошчы БССР

Згодна вестак, якія атрыманы Белкалгассаюзам, стан калектывізацыі БССР на 15-га сьнежня характарызуецца наступнымі лічбамі:

Па Магілеўскай акрузе калектывізана 36% плошчы—470.667 гэкт., па Аршанскай акрузе—31,8 проц.—260.833 гэкт., па Гомельскай акрузе—22,2 проц.—224.000 гэкт., па Мазырскай акрузе—20 проц.—107.148 гект., па Віцебскай акрузе—15,9%—136.874 гект., па Бабруйскай акрузе%—12,5—148.000 гект., па Полацкай акрузе—10,2 проц.—60.515 гект., па Менскай акрузе—6,6 проц.—90.000 гект.

Такім чынам, Магілеўская акруга па тэмпу калектывізацыі ідзе на першым месцы; Менская-ж акруга—на апошнім месцы.

**Усяго на 15-га сьнежня калектывізавана 17 проц. агульнае плошчы БССР—1.498.137 гект.**

# ЗЬМЕСТ

## часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“ №№ 1—6 (ліпень—сьнежань) 1929 г.

### I. Агульны аддзел.



### II. Калгаснае будаўніцтва і каапэрацыя.

## III. Праца і жыцьцё ў калгасах.

Добрая вытворчасьць працы—залог моцы калгасаў—**Цынкоў**, № 3. За зьдзельную аплату працы ў калгасах—**Кудзінаў**, № 3. Аб паказальных калгасах—**Цынкоў**, № 3. Ці добра мы скарыстоўваем трактары—**А. А.**, № 3. Гатункова-насеннаводная справа і чарговыя пытаньні па гатунковаму насеннаводзтву ў калгасах—**Бялоў**, № 3. У барацьбе за калгасы—**Драйчук**, № 3. Каляктывізацыя на Бабруйшчыне—**Лодысеў**, № 3. Плян падрыхтоўчай працы і правядзеньне «Дню ўраджаю і каляктывізацыі» па лініі калгассыст. БССР., № 3. Буйнейшы калгас Беларусі—**Калгасьнік**, № 4. Камуна Карла Лібкнехта—**С. К.**, № 4. Першы чырвонаармейскі калгас на Мар'інскім балоце—**М. Іткін**, № 4. Як жыве і працуе с.-г. арцель «Савецкая Беларусь»—**Васіль Дубовы**, № 4. Як зьбіраць з поля насенны лубін—**І. Хлопіцкі**, № 4. Сям'я, а не калгас—**Каляктывісты**, № 5. З такімі калгасамі далёка не заедзеш—**Калгасьнік**, № 5.

## IV. Палявая гаспадарка.

Задачы васеньняй с.-гаспадарчай кампаніі—**Масюкоў**, № 1. Шырэй скарыстаць залежы фасфарытаў—**Б. Бельчэнка**, № 1. Трактар—машына ня толькі эканамічнага, але і тэхнічнага эфэкту—**Вэйс**, № 1. Сьцябловая сажа жыта—**С. Тупяневіч**, № 1. Усе на вадрыхтоўку мясцовых с.-г. выставак у «Дзень ураджаю»—**М. Сеўрук**, № 1. Лугавы матылёк або мятліца—**К. Ашукіна**, № 1. Сьвірнёвы доўганосік і барацьба з ім—**Э. Сяргеева-Булаўка**, № 2. Вясковае вадазабясьпечаньне—**А. Ум-ў**, № 2. Сыпучыя пяскі і змаганьне з імі—**Міхасенка**, № 3. Як церці лён, каб атрымаць добрае валакно і кудзелю—**Крупень**, № 3. Падрыхтоўка тэхнічных кадраў для сельскае гаспадаркі—**Кесараў**, № 5. За больш рацыянальнае выкарыстоўваньне сельска-гаспадарчых машын—**В. Валахановіч**, № 5. Папераджальныя меры барацьбы са шкоднікамі гароду—Асыст. **М. Пілько**, № 5. На замену сіняга каменю—**С. Тупяневіч**, № 5 і 6. Аб кантрактацыі пасеваў—Агр. **І. Левіт**, № 5.

## V. Сялянскі досьлед.

Пажніўнае лушчэньне—павялічвае ўраджаі аўса—**М. Казімірчык**, № 1. Разводзьце «Махнатку»—**Янка Судак**, № 1. Мой першы досьлед—**Ю. Рэвенка**, № 1. Вынікі працы шэфтаварыства Горацкай с.-г. Акадэміі ў вёсцы Шарыпы—**Т. М. Краўцоў**, № 2. Сэлекцыйнае насеньне павялічвае ўраджай—**В. Мураўскі**. Удзел нашага камсамолу ў пасеўных кампаніях—**Т. Трапашка**, № 2. Догляд жыта ўвосень і зімою—**А. Карнейчык**, № 2. Карысьць ад пульхненьня глебы—**А. Фурса**, № 5. Лепшая апрацоўка глебы павялічвае ўраджай—**А.**, № 5.

## VI. Жывёлагадоўля.

Разводзьце больш вадаплавуючую птушку—**Міх. Малыхін**, № 2. Краснуха сьвіней—**Багаяўленскі**, № 2. Новая крыніца прыбытку—**Галубчык**, № 3. Каляктывізацыя і сьвінагадоўля ў Беларусі—**Жыркевіч**, № 5. Больш увагі нашаму птушніцтву—**М. Канавальчык**, № 5. Патурбуйцеся аб ўцяпленьні хлявоў—**А. Тат-ва**, № 5.

## VII. Садоўніцтва.

Торф, як угнаеньне для садоў—**М. Бурштэйн**, № 1. Ужывайце гародніну і садавіну—**Сюбараў**, № 2. Абавязковыя агры-культурныя палепшаньні ў садоўніцтве—Праф. **М. Бурштэйн**, № 3. Завод пладова-ягадных він Белхарчтрэстаў г. Воршы,—**Ю. Равенка**, № 3. Пашырайце пасевы многалетняй гародніны—Агр. **Л. Калер**, № 3. Краты—абаронцы расьлін—**М. Б-н.**, № 3. Экспарт садавіны і падвышэньне яе таварнасьці—**Ражкоў**, № 3. Садоўніцтва і тэх-пераапрацоўка садавіны ў саўгасах Белсельтрэсту—**Ражкоў**, № 3.

## VIII. Лясная гаспадарка.

Жывыя агарожы—**С. Бруеў**, № 1. Саматужнікаў трэба арганізаваць у арцелі—**А. Акшэўскі**, № 1. Скарыстайце лясныя багацьці, № 1. Зьбірайце дзічкі-яблыні—**Ю. Рэвенка**, № 1.

## IX. Праца на балоце.

Пытаньні ўгнаеньня балот—**Шохар**, № 3. Мэліорацыйныя справы на Магілеўшчыне—**Лодысеў**, № 3. Лішак вільгаці—вораг сенажаці—**Бляўскі**, № 3.

### X. Афіцыйны аддзел.



### XI. Хроніка.



---

# ЗЬМЕСТ

## часопісі „ПЛУГ“ №№ 1—6 (студзень—чэрвень) 1929 г.

### I. Агульны аддзел.



### II. Калгаснае будаўніцтва і каапэрацыя.



### III. Дзяржаўная дапамога вёсцы.



### IV. Палявая гаспадарка.

вялікі ўраджай на пясчаных глебах—**С. Трызна,** № 2. Аб вапнавньні глебы—**П. Лікайс,** № 2. Уплыў сорту на ўраджай—**А. Башкевіч,** № 2. Лепшыя сарты гародніны—**Трахімава,** № 2. Што даюць нам некаторыя бабовыя культуры—**С. Кукес,** № 2. Павітуха і мерапрыемствы барацьбы з ёю—**Бялоў,** № 2. Мокрая або сьмярдзючая сажа пшаніцы—**С. Тупяневіч,** № 2. Попел у справе падвышэньня ўраджаю—**Бесман,** № 2. Прыкметы аб надвор'і і ці можна імі карыстацца—**Маслакавец,** № 2. Вясеньні догляд за пасевам жыта і канюшыны—**В. Чэмелаў,** № 3. Зялёныя ўгнаеньні ў справе падвышэньня ўраджаяў —**Я. Жогло,** № 3. Як забясьпечыць пасьпяховае прыстасаваньне мінэральных угнаеньняў—**А. І. Берзін,** № 3. Сортадасьледваньне аўса і бульбы на падзолістых супясках—**Герасімаў,** № 3. Як атрымаць пэўны ўраджай караньплодаў—**Трахімава,** № 4-5. Карысьць ад падсяўных і пажніўных расьлін па даных станцыі—**С. Кукес,** № 4-5. Барацьба з засьмечанасьцю на палёх—**Р. З. Пратасеня,** № 4-5. Сейце сэрадэлю на папары—**Я. Панамарэнка,** № 4-5. Як павялічыць кармы для жывёлы—**Я. Жогло,** № 4-5. Вынікі праверкі насеньня ў саўгасах Менскай і Бабруйскай акр.—**Бялоў,** № 4-5. Лекавыя расьліны—**Р. З. Пратасеня,** № 4-5. Як зьнішчыць пацукоў і мышэй—**М. Пілько,** № 4-5. Шляхі і спосабы падвышэньня ўраджайнасьці—Праф. **Аляксеяў,** № 6. Калі лепш заворваць лубін па бульбу—**А. Турлапава,** № 6. Апрацоўка міжрадзьдзяў насенных караньплодаў і лугавых траў—**А. Бабіч-Заянчоўскі,** № 6. Вывазка на папар гною і яго заворваньне—**В. Чэмелаў,** № 6. Аб сетцы карэспандэнтаў па назіраньню за шкоднікамі і грыбнымі хваробамі с.-г. расьлін—**С. Т.,** № 6. Што такое надвор'е—**Маслакавец,** № 6.

## V. Сялянскі досьлед.

Пытаньне, якім трэба зацікавіцца кожнаму селяніну-дасьледчыку—**С. Т.,** № 1. Заняты папар у практыцы сялян в. Клешава—**Я. Корзон,** № 1. Невялікія назіраньні за культурай зімовай вікі—**А. Івановіч,** № 1. Вынікі ўраджаю аўса сорту «Пабеда»—**А. Акшэўскі,** № 2. Карысьць ад вымачваньня насеньня—**Ул. Юркевіч,** № 2. Трэба выбраць гатунак аўса—**Я. М. Савіцкі,** № 2. Насеньне сартаваць—прыбытак нажываць—**П. Ліневіч і Т. Пакідзька.** Досьлед над пасадкай цукровых буракоў—**Міх. Малыхін,** № 2. Мой досьлед з раньнім пасевам лёну—**В. Тарасенка,** № 2. Досьлед з пасевам лубіну па жыце—**Я. Дубатаўка,** № 3. Як закладаць гароды на пустой зямлі—**Б. Шымковіч,** № 3. Досьлед з праращчваньнем насеньня бульбы—**Я. Коршун,** № 3. Аб аднэй нядбайнасьці—**М. К. Брацэнкаў,** № 3. Задачы Інстытуту Сялян-дасьледчыкаў у пасяўной кампаніі—**Г. М. Чуйко,** № 4-5. Вапнаваньне глебы—**М. Савіцкі,** № 4-5. Аб занятым папары—**Б. Шымковіч,** № 4-5. Як лепш скарыстаць гной—**А. Акшэўскі,** № 4-5. Вынікі сялянскіх досьледаў па вырашэньню кармовага пытаньня—**Я. Уласенка,** № 4-5. Досьлед з пасевам лубіну ў жыта—Дасьл. **А. Івановіч,** № 6. Досьлед з баранаваньнем яравых пасеваў—**Л. Чалоўскі,** № 6. Высокалітоўка заслугоўвае ўвагі—**Янка Судак,** № 6. Часопіс «Плуг» памагла знайсьці каштоўнае ўгнаеньне—торф—**Акшэўскі,** № 6.

## VI. Жывёлагадоўля.

Вынікі паказальнага кармленьня сялянскіх кароў—**М. Савіч,** № 1. Як найлепш скарміць бульбу і караньплоды жывёлай—**Тананка,** № 1. Адкормліваньне і кантрактацыя сьвіней на бэкон—**К. Я. Вардомскі,** № 3. Правільнае даеньне—шлях да падвышэньня прадукцыйнасьці каровы—**К. Я. Вардомскі,** № 4-5. Як трэба гадаваць цялят, каб атрымаць добрую карову—**М. Канавальчык,** № 4-5. Нормы для адкорму падсьвінакаў на бэкон—**Шавэка,** № 4-5. Некалькі заўваг аб гадоўлі і вывадцы курэй—**Ю. Тамашэвіч,** № 4-5. Як будуецца сілос—**К. Я. Вардомскі,** № 6. Дамовая вэтэрынарная аптэчка—**М. Жарын,** № 6.

## VII. Садоўніцтва, гародніцтва і пчалярства.

Выраб і захаваньне пладовага пюрэ—**В. Сініцкі,** № 1. Забаватасьць (рак) на каранёх пладовых дрэў—**Ражкоў,** № 2. Зімоўка пчол—**С. Старасьцін,** № 2. Безадкладная веснавая праца ў садзе—**П. М. Бандарэц,** № 3. Некалькі слоў аб высадках гародных расьлін—**Л. Парфяновіч,** № 3. Троху аб цыкорыю—**Л. Парфяновіч,** № 3. Гадоўля цыкорыя—**Чэмелаў,** № 3. Якія штучныя ўгнаеньні ўносяцца пад цыбулю—**Тананка,** № 3. Як пчолы павялічваюць ураджай дрэў—**Л. Рэйборт,** № 4-5. Культура суніцы—Красачкін. № 4-5. Трэба гадаваць больш цыбулі—**С. Хоміч.** № 4-5. Як найлепш скарыстаць гародную плошчу—**К. Ашукіна,** № 4-5. Як атрымаць добрую расаду капусты і бручкі—**Л. Калер,** № 4-5. Як змагацца з гнільцом пчол—**Л. Гаховіч,** № 4-5. Занядбаныя скарбы—**Л. Б.,** № 4-5. Як бараніць сады і гароды ад шкоднікаў—**Д. Райскі,** № 6. Гуркі—**В. Красачкін,** № 6. Як бараніцца ад вусені на капусьце—**У. Юркевіч,** № 6.

### VIII. Праца на балоце.

Якую шкоду ўчыняюць балоты гасельніцтву і якую карысьць можна ад іх атрымаць—**П. Саўкін**, № 1. Каноплі на балоце—**А. Шохар**, № 1. Лугі на балотах—**П. Саўкін**, № 4-5. Да пытаньня палепшаньня прыродных выганаў—**П. Ляневіч**, № 4-5.

### IX. Лясная гаспадарка.

Роля сялянства ў адмежаваньні Дзяржаўнага Ляснога Фонду—**К. Л.**, № 2. Да «Дню Лесу»—**Е. Міхасенка**, № 4-5. Аб пасадцы дрэў наўкол будынкаў і пры дарогах—**Е. Міхасенка**, № 4-5. Вынікі «Дню Лесу» мінулых гадоў—**М. Е.**, № 4-5. Аб падсочным промысьле па здабычы жывіцы Лесзагам НКЗБ—**П. Лазарэвіч**, № 4-5.

### X. Афіцыйны аддзел.

Пастанова аб кантролі насеннага матар'ялу, № 2. Пастанова СНК БССР пра ўвядзеньне абавязковых для землякарыстальнікаў агрыкультурных палепшаньняў у сельскай гаспадарцы, № 4-5.

### XI. Пытаньні і адказы па зямельных справах.

№№№ 1, 2, 3, 4-5, 6.

### XII. С.-г. хроніка.

Аб камісіі сувязі са скончыўшымі БД С.-Г. Акадэмію—**Бюро сувязі**, № 4-5.

## Паштовая скрынка.

**З. К.** Верш „Абоз“ і ліст „Хлеб Кітаю“ да друку не падыходзяць.

**А. Перагуд.** Артыкул „Кармовая расьліна сэрадэля“ друкавацца ня будзе, таму, што аб гэтым у былым часоп. „Плуг“ зьмяшчаліся досыць падрабязныя артыкулы, з вынікамі досьледаў, паказаных у лічбах. Ваш-жа артыкул мае толькі агульна-апісальны зьмест.

**К. Камароўскаму.** Адрас трусаводнага племгадавальніку наступны: Саўгас „Сеньніца“, Самахвалавіцкага раёну, Менскай акругі. Зьвяртайцеся да т. Галубчыка, які ведае справай трусаводства ў саўгасе.

**Райаграному.** Аб высылцы брашуры Цынкова і Кудзілава. Паштоўка пераслана Белдзяржвыдавецтву з мэтай задавальненьня вашай просьбы.

**Сталёваму.** Допіс аб Дасавіцкім сельсавеце пераслаты ў рэдакцыю „Беларускай Вёскі“.

**Князеву Ц. Д.** Замест часопісу „Плуг“ з ліпеня месяца 1929 г. выдаецца часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“. Падпісная плата на часопіс засталася ранейшай (гл. на вокладцы). Часопісу „Сельская і Лясная Гаспадарка“ за 1929 г. вышла толькі 1 кніжка (студзень і сакавік месяцы). Цана і на гэты часопіс застаецца ранейшай.

**М. Д.** Артыкул „Увага конскаму мясу“. **А. В. Карнейчыку.** Артыкулы: „Ці магчыма гадаваць сад у Беларусі“, „Сейце гатунковы авёс „Пабеда“, „Залаты дождж“ і штучныя гнаі падымаюць ураджай ільну“. **Я. Талуціс.** „Будуйце агнятрывалыя хаты—будуць вёскі багаты“. **В. Коршун**—„Досьлед с прарашчваньнем бульбы перад пасадкай“, **Бачко Я. Г.**—„Калгасы растуць. **І Хлапіцкаму**—„Кармушка для авец „Ідэал“, **С. Герасімаву**—„Роля аграпункту ў справе падняцьця сельскае гаспадаркі“, **Арэфовіч**—„Ужываньне лінейкі пры пасадцы пладовых дрэў“ пераслалі рэд. газ. „Беларуская Вёска“.

Адк. рэд. **П. Рачыцкі**. Рэдактар—**Рэдкалегія**.

# Выклікаю на спаборніцтва селькораў усіх газэт і часопісаў.

Выканаць наступнае сацыялістычнае спаборніцтва:

Да 1-га мая 1930 г.: 1) Арганізаваць буйны калгас, пераважна з беднаты, 2) сабраць падпіску на газэту „Беларуская Вёска“, час. „Шляхі Каляктывізацыі“ і іншыя выданьні на 300 руб., 3) павесьці рашучую барацьбу з рэлігійным дурманам і кулацтвам і быць актыўным бязбожнікам, 4) выканаць у сваёй вёсцы аграмінімум на 100 проц., 5) да 1-га лютага 1930 г. распаўсюдзіць 3-ю пазыку індустрыялізацыі на 200 руб.—аб выкананьні сац. спаборніцтва даставіць адпаведныя дакуманты. Каб не на словах, а на справе пачаць перабудову старой гаспадаркі на сацыялістычны лад, я першы ўступаю ў калгас. Чакаю адказу: хто наступны на мой заклік па сацыялістычнаму спаборніцтву?

АКШЭЎСКІ АДАМ ЯЗЭПАЎ.

В. 1-я Брылёўка, Мархлеўскі сель.-савет,
Талачынскі р., Аршаншчына.

---

# Таварышы карэспандэнты—дапісчыкі часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“!

Рэдакцыя мяркуе, каб у далейшым артыкулы ў часопісу былі па велічыні ня больш 2 друкаваных старонак з дадаткам 2—3 малюнкаў, такі артыкул будзе найлепш адпавядаць запатрабаваньням масавага чытача-калгасьніка, батрака і бядняцка-серадняцкага сялянства. Лічбы вагі, мераў і г. д. абавязкова ў мэтрычных вылічэньнях (старыя могуць быць поруч у дужках).

Пішэце аб усіх зьявах калгаснага будаўніцтва. Аб тых калгасах, што ўжо існуюць: аб іх станоўчых бакох, аб адмоўных. А дзе няма калгасу, дык як рыхтуюцца да гэтага, якія перашкоды існуюць на шляху арганізацыі калгасу ў вашай мясцовасьці.

Далей—ці ёсьць у вашай хаце-чытальні, клюбе і бліжэйшым да вашага паселішчы, часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“, якія аб ім водзывы. Ці выпісвае часопіс школа, калі не—дык чаму.

Самі вы напэўна выпісалі. А калі не, дык паведамеце рэдакцыю з прысылкай артыкулу, каб вам зрабілі падпіску за кошт ганарару.

Бярэцеся рупліва за справу пашырэньня падпіскі на часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“.

РЭДАКЦЫЯ.

---

## ПАМЫЛКІ ДРУКУ:

На 12 староньцы подпіс пад верхнім малюнкам надрукована „у в. Пятроўшчына“ а трэба „у в. Петрапольле“. На 14 староньцы подпіс пад малюнкам „Эштэр-Май“, а трэба „Эрштэ-Май“.

ЦАНА 20 кап.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА 1930 г.

—) НА (—

# „Шляхі Калектывізацыі“

**Часопіс калектывізацыі, вытворчага с.-г. каапэраваньня і агранамізацыі насельніцтва.**

**Выданьне Наркамзему і Белкалгассаюзу БССР.**

Часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіваць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.

Задачы часопісу „Шляхі Калектывізацыі“—згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікам калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязан з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў, з Інстытутам Сялян-Дасьледчыкаў, перадавым актывам калгасаў і вёскі.

**Падпісная плата на 1930 г.**

| | |
|---|---|
| На год (12 нумароў) | 2 р. 20 к. |
| „ 6 месяцаў | 1 р. 10 к. |
| „ 3 „ | 60 к. |
| Паасобны нумар | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых або 12 поўгадавых падпісчыкаў.

Замест грашовага адлічэньня—зборшчык, які сабярэ 6 гадавых ці 12 поўгадавых падпісак, можа быць залічаны гадавым падпісчыкам часопісу.

Падпіска прымаецца на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

Ёсьць камплекты „Плуга“ за ранейшыя гады. Цана камплекту 1 р. 10 к.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 71, НКЗБ.